

"Каб усе былі адно"
(Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (62), 2009
17 верасьня

БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ГАЗЕТА





У Браславе 22 жніўня 2009 году была ўрачыста каранавана папскімі каронамі цудатворная ікона Маці Божай Валадаркі Азёраў. Некалькі стагоддзяў ёю апекаваліся манахі-базыльяне. У мясцовы рыма-каталіцкі касьцёл гэтую цудатворную ікону Багародзіцы перадалі, калі царскія ўлады пачалі ліквідацыю Уніі і вырашылі зачыніць манастыр айцоў базыльянаў у Браславе, і манастырская царква, дзе захоўвалася ікона, згарэла.

«Для Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі каранаваньне Браслаўскай іконы Багародзіцы папскімі каронамі зьяўляецца вялікай духовай падзеяй. Гэтае вялікае сьвята ёсьць духовай, малітоўнай сустрэчай вернікаў розных веравызнаньняў перад іконай Багародзіцы, якая ёсьць для нас усіх Маці Еднасьці. Мы вельмі ўдзячныя Біскупу Віцебскаму Ўладзіславу Бліну за падрыхтоўку гэтага каранаваньня. Удзел высокіх Прадстаўнікоў дзяржаўных і адміністрацыйных Уладаў у гэтым сьвяце ёсьць знакам павагі дзяржаўных структураў да рэлігійнай традыцыі грамадзянаў Рэспублікі Беларусь», – сказаў Архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі.



23 жніўня 2009 году ў Полацку ў царкве сьвятой Параскевы Полацкай, дзе сёньня захоўваецца копія цудатворнай Браслаўскай іконы Маці Божай, грэка-каталіцкі біскуп Мукачаўскі Мілан Шашык рукапаклаў на сьвятара дыякана БГКЦ Аляксандра Аўдзеюка (гл. фота). Ён стаў другім беларускім каталіцкім сьвятаром візантыйскага абраду, які быў высьвячаны на тэрыторыі Беларусі пасьля скасаваньня Уніі ў Полацку ў 1839 годзе.

Гл. таксама матэрыялы на с. 2-3.

"Царква, калі хоча быць сапраўды Царквой, не павінна быць ворагам дзяржавы, абсалютна не, але яна павінна быць самастойнаю. Яна павінна жыць згодна з Божымі прынцыпамі. Яна павінна мець адвагу сказаць, нават дзяржаўным структурам, што тое, што вы робіце, няправільна. Гэта ня лёгка, але гэта частка нашага хрысьціянскага жыцьця, нашага хрысьціянскага заданьня"

*Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір ГУЗАР.*
*Інтэрв'ю ўкраінскаму тэлеканалу ТВі 27.07.2009.*

## У нумары:

# Новы сьвятар – каштоўны дар Маці Еднасьці

***23 жніўня 2009 году ў Полацку ўпершыню пасьля скасаваньня Уніі высьвячаны грэка-каталіцкі сьвятар: у царкве сьвятой Параскевы Полацкай на сьвятара быў рукапакладзены дыякан БГКЦ Аляксандр Аўдзяюк.***

Ён стаў другім каталіцкім сьвятаром візантыйскага абраду, які быў высьвячаны ў Беларусі пасьля скасаваньня Уніі ў 1839 годзе (першым быў а. Яўген Усошын, якога высьвяцілі ў Маладэчна). Іншыя беларускія грэка-каталіцкія сьвятары, у тым ліку і ў міжваенны час, рукапакладаліся па-за межамі Беларусі.



Архірэйскую Боскую Літургію, на якой на просьбу Апостальскага Візітатара БГКЦ быў рукапакладзены новы сьвятар БГКЦ Аляксандр Аўдзяюк, служыў Апостальскі Адміністратар Мукачаўскай грэка-каталіцкай япархіі (Украіна) Уладыка Мілан Шашык. Гэты ж біскуп раней удзяліў яму дыяканскія сьвячаньні 13 траўня 2009 году ў Мукачаве, падчас Сустрэчы ярархаў усходніх каталіцкіх Цэркваў Эўропы.

Архірэйская багаслужба ў візантыйскім абрадзе, адслужаная Ўладыкам Міланам (Шашыкам) 23 жніўня 2009 году ў Полацку, у царкве сьв. Параскевы Полацкай, была першай багаслужбай грэка-каталіцкага ярарха ў гэтым горадзе за больш чым 170 гадоў пасьля «сабору», скліканага Ёсіфам Сямашкам у Полацку для скасаваньня Уніі. Падчас сьвятарскіх сьвячаньняў Алеся Аўдзеюка за яго маліліся таксама Апостальскі Візітатар БГКЦ архім. Сяргей (Гаек), архім. Пятро Бераш – сінкел Мукачаўскай япархіі ГКЦ, грэка-каталіцкія сьвятары з Беларусі і Расеі.

У гэтай значнай для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы падзеі бралі ўдзел ня толькі мясцовыя вернікі з парафіі сьв. Язафата, але і вернікі з розных грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі. Напярэдадні разам з Уладыкам Міланам (Шашыкам) і Апостальскім Візітатарам БГКЦ многія з іх зьдзейсьнілі пілігрымку ў Браслаў, дзе маліліся за новага сьвятара БГКЦ падчас урачыстасьці каранацыі цудатворнай іконы Маці Божай Валадаркі Азёраў, якая ў часы Уніі захоўвалася ў манастыры базыльянаў.



***Айцец Аляксандр АЎДЗЯЮК*** *(нар. 28.06.1978) паходзіць з прыбужскага мястэчка Дамачава Берасьцейскай вобласьці, што знаходзіцца на сумежжы Беларусі, Польшчы і Ўкраіны.*

*Пасьля заканчэньня школы ў 1995-ым паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на механіка-матэматычны факультэт, які скончыў у 2000 годзе. Падчас навучаньня ў Менску пазнаёміўся з каталікамі візантыйскага абраду і прыяднаўся да Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.*

*У 2000-2003 гг. працаваў настаўнікам у школе, атрымліваў духоўную фармацыю ў манахаў-студытаў у Уніўскай Сьвята-Усьпенскай Лаўры ва Ўкраіне. З 2003 году Алесь Аўдзяюк – семінарыст БГКЦ. Сьвятарскую фармацыю праходзіў у Вышэйшай духоўнай рыма-каталіцкай семінарыі ў Драгічыне (Польшча), а з восені 2005 году – ва Ўсходняй калегіі ў Айхштэце (Нямеччына).*

*Сёлета А.Аўдзяюк скончыў тэалагічны факультэт у Каталіцкім універсітэце ў Айхштэце, што ў Баварыі, атрымаў ступень дыпламаванага тэолага. Студыяваў ён на катэдры гісторыі тэалогіі, сьпецыялізаваўся на патралогіі.*

*30.06.2006 г. біскуп Прэшаўскі Ян Бабяк, SJ паставіў яго на чытальніка і іпадыякана, 13.05.2009 г. біскуп Мукачаўскі Мілан Шашык высьвяціў Алеся Аўдзеюка на дыякана, а 23.08.2009 г. – на сьвятара.*

*Айцец Аляксандр Аўдзяюк будзе дапамагаць у душпастырскай апецы вернікаў парафіі сьв. Язэпа ў Менску, а таксама будзе служыць як віцэ-канцлер курыі Апостальскага візітатара БГКЦ.*

**Ігар БАРАНОЎСКІ**







*• Полацак, 23.08.2009. Сьвятарскія сьвячаньні Аляксандра Аўдзеюка.*
*(Фота А.Андросік і П.Дайліда).*

# У Браславе каранавана ікона Маці Божай Валадаркі Азёраў



***У суботу, 22 жніўня 2009 году, у Браславе, пад адкрытым небам, на платформе, зробленай у выглядзе карабля, якая была разьмешчана непасрэдна каля марыйнага санктуарыюму, што на беразе возера, была каранаваная папскімі каронамі цудатворная Браслаўская ікона Маці Божай – Валадаркі Азёраў.***

Ікона Багародзіцы, якая ўшаноўваецца цяпер у браслаўскім касьцёле Нараджэньня Найсьвяцейшай Панны Марыі, доўгі час знаходзілася ва Ўсьпенскім манастыры манахаў-базыльянаў, які разьмяшчаўся на адным з 15 астравоў возера Несьпіш. Манастыр вядомы яшчэ з 1500 году, уніяцкім ён стаў ад 1596 году, а яго архімандрыт Багдан Годкінскі-Клімант быў сярод тых, хто ў Берасьці паставіў свой подпіс пад дакументамі царкоўнай Уніі.

У браслаўскі касьцёл цудатворная ікона Багародзіцы была перададзена ў часы, калі пачалося зьнішчэньне Уніі ў краі. 21 жніўня 1832 году ў Браслаўскім базыльянскім манастыры здарыўся моцны пажар. Царква і ўсе манастырскія будынкі былі зьнішчаныя агнём. Ацалеў толькі абраз... Існуе меркаваньне, што манастыр загарэўся падчас начной навальніцы ад маланкі. Аднак на гэтыя трагічныя падзеі можна глянуць і ў іншым сьвятле: у 1832 годзе расейскія ўлады пачалі зачыняць базыльянскія манастыры – галоўныя аплоты Уніі. Ад 17 ліпеня 1832 году Закон Айцоў Базыльянаў у Расейскай імперыі перастаў існаваць, а ўсе манастыры былі непасрэдна падпарадкаваныя зьнішчальніку Уніі Ё.Сямашку. Браслаўскі манастыр у ягоным сьпісе на закрыцьцё быў у ліку першых...

22 жніўня 2009 году, пасьля зьдзяйсьненьня ўрачыстай каранацыі Браслаўскай іконы, вядомай яшчэ як Манастырская, на небе зьявілася гало – кола вакол сонца, якое ярка сьвяцілася. Гэты аптычны феномен, які назіраецца ў прыродзе ня так ужо і часта, прыцягнуў увагу шматлікіх вернікаў, якія сабраліся на пляцы перад браслаўскім санктуарыем Маці Божай.

Урачыстасьць каранацыі праходзіла пад адкрытым небам, на пляцы перад касьцёлам. Месца, дзе быў устаноўлены часовы алтар для літургіі, аформілі ў выглядзе карабля даўжынёй 32 метры. Мачту гэтага карабля вянчаў 22-метровы крыж. Сам цудатворны абраз Маці Божай Валадаркі Азёраў, упрыгожаны белымі лілеямі, быў усталяваны на невялікай яхце перад алтаром. Карабель сымбалізаваў запрашэньне ў жыцьцёвае падарожжа разам з Божай Маці, якой трэба даверыцца, каб Яна прывяла кожнага з нас да жыцьця вечнага ў доме нашага Айца.

У гонар Маці Божай напярэдадні каранацыі адбыўся фэст нацыянальных культур – свае хрысьціянскія сьпевы прапанавалі беларускія, польскія, латышскія і ўкраінскія вернікі.

На ўрачыстасьць у Браславе сабраліся 31 ярарх Каталіцкай Царквы з дзесяці краінаў сьвету – Беларусі, Расеі, Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Германіі, Італіі, Вялікабрытаніі, ЗША, а таксама каля 200 сьвятароў. Ва ўрачыстасьцях каранаваньня іконы прымалі ўдзел Ўладыка Мілан Шашык, Апостальскі Адміністратар Мукачаўскай грэка-каталіцкай япархіі, манахі-базыльяне з Украіны і Літвы, а таксама групы вернікаў з розных грэка-каталіцкіх парафіяў Беларусі на чале з Апостальскім Візітатарам архім. Сяргеем Гаекам. Былі прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы з Віцебскай япархіі, а таксама амбасадары і прадстаўнікі дыпламатычных місіяў шэрагу дзяржаў. Усяго – больш за 10 тысячаў вернікаў ня толькі з Беларусі, але і з суседніх краінаў маліліся ў гэты дзень ля цудатворнай іконы Багародзіцы.

Непасрэдна перад галоўнай сьвятой Імшой міжпарафіяльны грэка-каталіцкі хор «Прасфара» з Менску прасьпяваў Акафіст да Маці Божай. Набажэнства ўзначальвалі архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі Візітарар для грэка-католікаў Беларусі, разам з біскупам Мукачаўскім Міланам Шашыкам і архімандрытам Пятром Берашам з Вужгараду *(гл. фота)*.

Урачыстую сьвятую Імшу ўзначальваў архібіскуп Кёльнскі, кардынал Ёахім Майснэр, які, дарэчы, з асаблівай пашанай ставіцца да сьвятога Язафата Кунцэвіча. Уладыка Ёахім прамовіў казаньне, у якім заклікаў вернікаў ва ўсіх нашых складаных жыцьцёвых сітуацыях быць вернымі Царкве і заўсёды заставацца, як Марыя, пры Ісусе. «Хто цалкам аддаў сябе Богу – а менавіта так зрабіла Марыя,– будзе цалкам прыняты Ім. Гэта надае нашаму жыцьцю элемент вечнасьці. І таму Марыя нездарма ўпрыгожана каронаю, якую атрымала ад Свайго Сына. Тое, што Яна была ўзята на неба з усёю сваёю чалавечаю істотаю, для нас становіцца выклікам, які адначасова зьяўляецца надзеяй. Бог хоча асьвяціць нас, усё наша чалавечае існаваньне і прыняць на неба. Праз гэта Бог надае нашаму жыцьцю сапраўдны сэнс і належны падыход да сьмерці. І для нас у небе падрыхтавана вечная карона. Як сказаў сьвяты Пётр, мы – каралеўскае сьвятарства, народ выбраны *(пар. 1 Пт 2, 9)*, і Бог жадае давесьці сваё стварэньне да мэты – вечнасьці», – сказаў нямецкі ярарх.

Пасьля казаньня адбыўся галоўны момант усёй урачыстасьці: кардынал Ёахім Майснэр усклаў на цудатворным абразе карону спачатку на галаву Ісуса, а потым Яго Маці – Найсьвятой Багародзіцы.

Пасьля гэтага перад каранаванай іконай рыма-каталіцкі біскуп Віцебскі Ўладзіслаў Блін зачытаў Акт адданьня вернікаў і душпастыраў Віцебскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі пад апеку Маці Божай Валадаркі Азёраў.

Урачыста гучала малітва: «О Марыя, Маці Браслаўская! Мы, Твае дзеці, хочам аддаць Табе ва ўласнасьць нашыя сэрцы, нашу працу і адпачынак, малітвы і надзеі, каб Ты, нашая Маці, магла распараджацца імі, як сваёй праўдзівай уласнасьцю».

У грэка-каталіцкіх парафіях Беларусі пасьля гэтай урачыстай падзеі прайшла Актава падзякі за ласку каранаваньня гэтай старадаўняй іконы Багародзіцы.

Сёлетняя каранацыя ў Браславе цудатворнай іконы Маці Божай Валадаркі Азёраў – ужо сёмая ў найноўшай гісторыі Беларусі і дзявятая за ўсю гісторыю. У часы ВКЛ на тэрыторыі сучаснай Беларусі першай была каранавана цудатворная ікона Маці Божай у Жыровіцах (1730 г.), якой апекаваліся тады базыльяне, а пазьней яшчэ й Бялыніцкая ікона Маці Божай (1761 г.), што захоўвалася ў касьцёле кармялітаў.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*Фота П.Дайліда.*



# Ватыканскі кардынал наведае Беларусь

***Старшыня Папскай Рады спрыяньня хрысьціянскай еднасьці кардынал Вальтар Каспэр у лістападзе 2009 году ўжо ў другі раз наведае Беларусь. Па запрашэньні праваслаўнага Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, ватыканскі ярарх прыме ўдзел у міжнароднай канферэнцыі, прысьвечанай хрысьціянска-юдэйскаму дыялогу, якая будзе праходзіць з 9 па 11 лістапада 2009 году ў Менску.***

Плануецца, што падчас свайго знаходжаньня ў Беларусі кардынал Каспэр узначаліць сьвятую Імшу ў менскім архікатэдральным касьцёле.

Упершыню кардынал Каспэр пабываў з візітам у Беларусі 14-18 сьнежня 2002 году па запрашэньні кардынала Казіміра Сьвёнтка і Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Мэтай яго першага візіту ў нашую краіну было знаёмства з мясцовай Царквой.



Кардынал Вальтар Каспэр адназначна і рашуча заўсёды заклікае адкідаць любы акт варожасьці ў адносінах да габрэяў, асабліва матываваны рэлігійна. «Ня можа быць месца ніякаму хрысьціянскаму антысемітызму. Антысемітызм падрывае хрысьціянскія карані», – заявіў ён на міжнароднай канферэнцыі, прысьвечанай памяці ахвяраў Халакосту ў Берліне. На яго думку, краінам Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы, дзе да гэтага часу моцныя антысеміцкія настроі, «яшчэ многае трэба зрабіць». Ён заклікае хрысьціянаў гэтай часткі кантыненту на актыўнае змаганьне з гэтай зьявай ва ўсіх яе праявах.

**Вальтар КАСПЭР** (нар. 05.03.1933)

*З 1999 году зьяўляўся сакратаром Папскай Рады спрыяньня еднасьці хрысьціянаў і віцэ-прэзідэнтам Камісіі па рэлігійным дыялогу з юдаізмам. 21 лютага 2001 году ён быў далучаны да Калегіі кардыналаў і з 3 сакавіка 2001 году ўзначальвае Папскую Раду спрыяньня еднасьці хрысьціянаў ды Камісію па рэлігійным дыялогу з юдаізмам. 15 мая 2001 году кардынал Вальтэр Каспэр стаў членам Кангрэгацыі Веравучэньня і Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, а 18 траўня таго ж году – членам Папскай Рады па культуры. У 2002-м быў прызначаны членам Вышэйшага Папскага царкоўнага суду (Signatura Apostolica).*

*Зьяўляецца аўтарам шматлікіх тэалагічных прац.*

# Хрысьціянска-юдэйскі дыялог: канферэнцыя ў Менску

***З 9 па 11 лістапада 2009 году ў Менску адбудзецца міжнародная канферэнцыя на тэму «Хрысьціянска-юдэйскі дыялог: рэлігійныя каштоўнасьці як аснова ўзаемапавагі ў грамадзянскай супольнасьці».***

Арганізатарамі канферэнцыі выступаюць Інстытут рэлігійнага дыялогу і міжканфесійных камунікацыяў пры Сінодзе Беларускай Праваслаўнай Царквы і Міжнароднае грамадскае аб'яднаньне «Хрысьціянскі адукацыйны цэнтр імя сьв. Мятода і Кірылы».

Сярод розных тэмаў дадзенай канферэнцыі варта вылучыць наступныя:

- перадумовы і магчымасьці хрысьціянска-юдэйскага дыялогу ў полiканфесійным і полікультурным грамадстве;
- рэлігійныя каштоўнасьці Сьвятога Пісаньня і выклікі сучаснасьці;
- укаранёнасьць рэлігійных каштоўнасьцяў і ўзаемасувязь багаслоўскіх традыцыяў у нашай культуры;
- юдэйска-хрысьціянскі кантэкст філасофіі мастацтва;
- постаці, якія яднаюць юдэйскую і хрысьціянскую традыцыі.

Напрыканцы канферэнцыі запланаваны цікавы круглы стол на тэму «Як могуць нашыя традыцыі ўзаемаабагачаць адзін аднаго?».

Падчас канферэнцыі 10 лістапада 2009 году ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі плануецца правядзеньне канцэрту, у якім будуць выкананыя хрысьціянскія і юдэйскія духоўныя сьпевы, а таксама прагучыць сьвецкая музыка вядомых кампазітараў, якая адпавядае духу канферэнцыі і дадзенай культурнай акцыі.

У канферэнцыі прымуць удзел прадстаўнікі праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкіх Цэркваў з Беларусі і Заходняй Еўропы, а з боку розных кірункаў юдаізму – прадстаўнікі з Беларусі, Ізраілю і ЗША. Сярод іх: архіяпіскап Валакаламскі Іларыён (Алфееў), старшыня Аддзелу зьнешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату, кардынал Вальтар Каспэр, Старшыня Папскай Рады спрыяньня хрысьціянскай еднасьці (Ватыкан), галоўны рабін Ізраіля Шлома Амар, д-р Мікалай Вірволь, дырэктар Інстытуту Ўсходніх Цэркваў (Рэгензбург, Нямеччына) і інш. Раней Хрысьціянскі адукацыйны цэнтр ужо ладзіў канферэнцыі на тэмы: «Рэлігійны дыялог і прымірэньне праз мастацтва» (2003 г.), «Хрысьціянска-мусульманскі дыялог ва ўмовах глабалізацыі» (2007 г.).

*Паводле Churchby.info*

# Каталікі ўсходняга абраду знаходзяць прытулак у Грэцыі

***Каталікі розных Усходніх Цэркваў, якія вымушаны былі ўцякаць ад драматычных сітуацыяў з Іраку, Ірану і балканскіх краінаў, займелі другі дом у Апостальскім Экзархаце для каталікоў візантыйскага абраду ў Грэцыі.***

Сёньня, разам з грэцкімі аднаверцамі, іх сем тысячаў. Паводле словаў Уладыкі Дымітрыяса Салахаса, Апостальскага Экзарха для каталікоў візантыйскага абраду ў Грэцыі, у дадзены момант у гэтай краіне ёсьць сем каталіцкіх япархіяў і адзін вікарыят лацінскага абраду, экзархат візантыйскага абраду і армянскі каталіцкі ардынарыят.

У Афінах ажыцьцяўляецца душпастырская апека каталікоў розных нацыянальнасьцяў. Візантыйскі экзархат праводзіць шырокую дабрачынную, адукацыйную і культурную працу, яму належыць лякарня, школа для дзяцей з псіхічнымі парушэньнямі, дом для састарэлых і інтэрнат для моладзі. Экзархат мае таксама выдавецтва і ладзіць два летнія лагеры для дзяцей. Цяпер Экзархат займаецца душпастырскай апекай вернікаў халдэйскага абраду, а таксама вернікаў візантыйскага – якія прыехалі з Украіны, з Румыніі і іншых балканскіх краінаў. Такім чынам, Экзархат стаў Царквой дыяспары, каталікоўімігрантаў усходніх абрадаў.

*Паводле Agnuz*

# Персьпектывы сустрэчы Патрыярха Кірыла з Папам Бенядыктам XVI

***Сустрэча Папы Бенядыкта XVI з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Кірылам адбудзецца, калі зьявяцца відавочныя персьпектывы плённай сумеснай працы абедзвюх Цэркваў, – адзначыў кіраўнік Аддзелу зьнешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату архіяпіскап Валакаламскі Іларыён (Алфееў). 15 верасьня 2009 году распачаўся візіт праваслаўнага архіяпіскапа ў Апостальскую Сталіцу.***

«Сустрэча Папы і Патрыярха павінна мець характар сымбалічны, а ня толькі пратакольны. Яна адбудзецца, калі зьявіцца персьпектыва пералому ў нашых адносінах», – падкрэсьліў архіяпіскап Іларыён.

Папа Бенядыкт XVI ужо сустракаўся з Патрыярхам Кірылам, калі той зьяўляўся Мітрапалітам Смаленскім і Калінінградзкім. Паводле словаў архіяпіскапа Іларыёна, праваслаўныя і каталікі, ня маючы на ўвазе канчатковае вырашэньне існуючых праблемаў, павінны навучыцца сумеснай працы, дзейнічаць як адзінае цэлае, нягледзячы на тое, што яны пакуль не зьяўляюцца адзінай структурай у адміністрацыйным сэньсе. Цэрквы павінны спыніць канкурэнцыю паміж сабой і стаць саюзьнікамі. Архіяпіскап Іларыён выказаў надзею, што Каталіцкая Царква і Праваслаўная Царква агульнымі намаганьнямі змогуць захаваць адзінства.

*Catholic.by*

# Захад і Ўсход – агульная спадчына

## Беларуская дэлегацыя на кангрэсе «Рэнавабіс» у Фрайзінгу

***3-5 верасьня 2009 году ў Фрайзінгу (Германія) праходзіў XIII Міжнародны кангрэс, арганізаваны акцыяй салідарнасьці нямецкіх каталікаў «Рэнавабіс». Тэма сёлетняй сустрэчы «Шукаць адзінства – захоўваць разнароднасьць. Усход і Захад у экуменічным дыялогу». Дэлегацыю беларускіх каталікаў узначальваў Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.***

Галоўным госьцем кангрэсу быў кардынал Вальтар Каспэр, старшыня Папскай Рады спрыяньня хрысьціянскай еднасьці. У выступленьні на адкрыцьці форуму ватыканскі ярарх заклікаў да зьнішчэньня негатыўных стэрэатыпаў паміж Усходам і Захадам. «Мы па-ранейшаму занадта мала ведаем адно аднаго і павінны навучыцца ўзаемнай павазе», – адзначыў кардынал Каспэр.

Беларуская дэлегацыя на працягу трох дзён прымала ўдзел у канферэнцыях, пленарных дыскусіях і працы ў групах. Сярод удзельнікаў кангрэсу былі прадстаўнікі праваслаўнай, рыма-каталіцкай, грэка-каталіцкай, пратэстанцкіх Цэркваў. Беларускую Праваслаўную Царкву і Аддзел зьнешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату прадстаўляў япіскап Бабруйскі і Быхаўскі Серафім (Беланожка).

У межах кангрэсу былі абмеркаваныя галоўныя пункты сучаснага экуменічнага дыялогу. Удзельнікі абмеркавалі пытаньне адносна таго, які ўклад у еўрапейскую інтэграцыю робіць Царква.

Кардынал Каспэр падкрэсьліў, што адзінства Еўропы – гэта «экуменічнае заданьне». Наш кантынент, па словах старшыні ватыканскага ведамства, зможа выжыць толькі тады, калі сваё разьвіцьцё будзе базаваць на агульначалавечых і хрысьціянскіх каштоўнасьцях.

Ватыканскі ярарх зьвярнуў увагу на добрыя адносіны паміж каталікамі і праваслаўнымі ў розных кантэкстах і на тэалагічны дыялог паміж імі, чарговы этап якога адбудзецца гэтай восеньню на Кіпры. Станоўча ярарх ацаніў адносіны паміж Каталіцкай Царквой і Расейскай Праваслаўнай Царквой, якія адзначаюцца ўсё большай інтэнсіўнасьцю.

Старшыня ватыканскага ведамства перасьцярог ад спадзяваньняў на хуткае дасягненьне адзінства Цэркваў. «Тысячагадовую гісторыю ня ўдасца так лёгка павярнуць назад», – адзначыў кардынал Каспэр і дадаў, што «гаворка ідзе не пра тэалагічныя пытаньні, але пра моцную ментальную розьніцу». «Яшчэ некаторы час мы павінны будзем жыць побач», – падкрэсьліў кардынал. Аднак, на думку ярарха, каталікі і праваслаўныя маюць шмат агульных заданьняў. Адным з іх, як адзначыў, зьяўляецца барацьба з секулярызацыяй.

Сьпецыяльнае бласлаўленьне для ўдзельнікаў кангрэсу даслаў Папа Бенядыкт XVI. З прывітальным словам да прысутных зьвярнулася канцлер Германіі Ангела Меркель.

Акцыя салідарнасьці нямецкіх каталікаў з жыхарамі цэнтральнай і ўсходняй Еўропы «Рэнавабіс» – гэта адзін з самых маладых каталіцкіх праектаў Еўропы. Нарадзіўся ў 1993 г. па ініцыятыве нямецкіх біскупаў. Кангрэсы «Рэнавабіс» – гэта штогадовыя мерапрыемствы, якія зьбіраюць сотні ўдзельнікаў, каб абмеркаваць пытаньні еднасьці і супрацоўніцтва паміж хрысьціянамі.

**кс. Аляксандр АМЯЛЬЧЭНЯ**
*Catholic.by*

# Курс для лідараў харызматычнага абнаўленьня

***Міжнародны інстытут каталіцкай харызматычнай лідарскай фармацыі з 5 па 26 верасьня 2009 году ладзіў у Рыме 3-тыднёвы курс для лідараў каталіцкага харызматычнага абнаўленьня з розных куткоў сьвету.***

Месцам для правядзеньня гэтага курсу стала харызматычная супольнасьць *«Fraterna Domus»* у Рыме.

Міжнароднае служэньне каталіцкага харызматычнага абнаўленьня (ICCRS) прапанавала ўжо трэцюю сваю праграму інстытуту лідарскай фармацыі. Заняткі падчас курсу ўключалі студыі ў Сьвятым Пісаньні, эклезіялогіі, марыялогіі, пнеўматалогіі, абвяшчэньні Евангельля Ісуса Хрыста, а таксама знаёмства з каталіцкім харызматычным абнаўленьнем, навыкамі лідарства і вопытам служэньня.

Значная частка часу была адведзена для практычнага навучаньня і семінараў па розных асьпектах служэньня каталіцкага харызматычнага абнаўленьня. Навучэнцы мелі магчымасьць атрымаць каштоўны вопыт, які яны змогуць прымяніць у сябе дома ў сваіх супольнасьцях. Дзеля гэтага ўдзельнікі курсу лідарскай фармацыі мелі некалькі паездак у месяцы, дзе вядзецца праца ў супольнасьцях каталіцкага харызматычнага абнаўленьня.

Сярод тых, хто праводзіў навучаньне ўдзельнікаў сёлетняга курсу лідарскай фармацыі, быў кардынал Станіслаў Рылка, Старшыня Папскай Рады па справах сьвецкіх, які выступіў з дакладам «Хрост у Сьвятым Духу», а таксама ён меў выклады па эклезіялогіі. Аўстралійскі біскуп Джо Грэч, Старшыня дактрынальный камісіі Міжнароднагае служэньня каталіцкага харызматычнага абнаўленьня, распавядаў пра харызматычнае абнаўленьне ў Каталіцкай Царкве, а таксама знаёміў са спосабамі і метадамі евангелізацыі. Айцец Боб Фэйрысі, SJ – прафесар-эмэрыт Грыгарыянскага ўнівэрсітэту ў Рыме, у сваіх выступах удзяліў увагу тэмам «Айцец» і «Ісус». Мішэль Маран, Старшыня Міжнароднага служэньня каталіцкага харызматычнага абнаўленьня (ICCRS) і нацыянальны кіраўнік Каталіцкага харызматычнага абнаўленьня (CCR) у Англіі асьвятляла тэмы «Сьвяты Дух» і «Цела Хрыстова», Пітэр Томпсан, сябра Рады ICCRS, апавядаў пра Добрую Навіну, а былы старшыня Міжнароднага служэньня каталіцкага харызматычнага абнаўленьня Чарльз Ўайтхэд прапанаваў удзельнікам курсу лідарскай фармацыі выклады на тэмы «Элементы малітоўнай сустрэчы» і «Жыцьцё лідара».



# Адкрыцьцё Году Жыровіцкай іконы Маці Божай

***У 2010 годзе спаўняюцца 280-ыя ўгодкі каранацыі іконы Маці Божай Жыровіцкай папскімі каронамі. Гэта была першая каранацыя цудатворнай іконы Маці Божай залатымі папскімі каронамі на тэрыторыі сучаснай Беларусі.***

6 верасьня 2009 году, у першую нядзелю новага царкоўнага году, беларускія грэка-католікі распачалі Год падрыхтоўкі да сьвяткаваньня 280-ых угодкаў каранацыі Жыровіцкай іконы Багародзіцы. Боскую Літургію на адкрыцьцё памятнага Году адслужыў у парафіі Жыровіцкай іконы Маці Божай у Івацэвічах Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек).

8 (19) верасьня 1730 г., у сьвята Нараджэньня Найсьвяцейшай Багародзіцы, кіеўскі ўніяцкі мітрапаліт Атанасі Шаптыцкі, у прысутнасьці пасланьніка Папы Рымскага, двух уніяцкіх біскупаў (Тэафіла Гадэбзкага, уладыкі Ўладзімірскага і Берасьцейскага ды Юрыя Булгака, уладыкі Пінскага і Тураўскага), шматлікага духавенства візантыйскага і лацінскага абрадаў і дзясяткаў тысячаў вернікаў зьдзейсьніў урачысты акт каранацыі залатымі папскімі каронамі іконы Маці Божай у манастыры айцоў-базыльянаў у Жыровіцах.

Цудатворая ікона Маці Божай Жыровіцкай нездарма стала першай каранаванай іконай беларускага народу, бо здаўна шанавалася і шануецца ня толькі праваслаўнымі, у якіх гэтая ікона захоўваецца сёньня, але і католікамі візантыйскага ды лацінскага абрадаў, якія маюць у сваіх сьвятынях таксама цудатворныя абразы Маці Божай Жыровіцкай – у Рыме, у царкве сьв. Сяргея і Вакха, і ў касьцёле сьв. Андрэя ў Слоніме. Гэты цудатворны абраз Маці Божай стаў сапраўдным сымбалем еднасьці беларускіх хрысьціянаў.

# Грэка-каталіцкі біскуп з Мукачава ўшанаваў беларускую сьвятыню

***Замежныя госьці, што ехалі на сьвята каранацыі папскімі каронамі цудатворнай іконы Маці Божай Браслаўскай – Валадаркі Азёраў, на сваім духовым шляху ў Браслаў захацелі таксама пакланіцца беларускай сьвятыні – Жыровіцкай іконе Багародзіцы, якая захоўваецца ў храмах трох канфесіяў у Івацэвічах, Жыровічах і Слоніме.***



20 жніўня 2009 году біскуп Мукачаўскай грэка-каталіцкай япархіі з Вужгараду (Украіна) Уладыка Мілан (Шашык) разам з нядаўна прызначаным сінкелам гэтай япархіі архімандрытам Пятром (Берашам), па дарозе ў Жыровічы затрымаўся на малітву ў грэка-каталіцкай парафіі ў Івацэвічах, дзе ўшаноўваецца копія Жыровіцкай іконы Маці Божай.

У душпастырскім цэнтры грэка-католікаў у Івацэвічах мясцовыя вернікі ўпершыню змаглі памаліцца з грэка-каталіцкім біскупам. Боскую Літургію ў івацэвіцкай капліцы (гл.фота) у гэты дзень узначальваў архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі.

21 жніўня яны разам з іншымі замежнымі гасьцямі, што ехалі на каранацыю ў Браслаў, маліліся перад цудатворнай іконай Багародзіцы ў праваслаўным (пабазыльянскім) храме ў Жыровічах, дзе сустрэліся з добразычлівым прыёмам з боку праваслаўных, і ў касьцёле сьв. Андрэя ў Слоніме, дзе захоўваецца копія праслаўленай цудамі рымскай іконы Маці Божай Жыровіцкай, якую падаравалі базыльяне, што жылі ў Рыме, на сваю Бацькаўшчыну ў 1738 годзе. Госьці заехалі таксама і ў Альбярцін, дзе маліліся на магілах айцоў езуітаў з Усходняй Місіі, якая там дзейнічала ў міжваенны час.

# Экуменічнае сьвяткаваньне парафіяльнага сьвята ў Лужках

***У парафіяльным сьвяце Нараджэньня Маці Божай у рыма-каталіцкай парафіі ў Лужках (Глыбоччына) 8 верасьня 2009 году – чарговы раз – удзельнічалі грэка-католікі.***

Гэтае парафіяльнае сьвяткаваньне было ўключана ў юбілейны Год сьвятарства рыма-каталіцкай Віцебскай дыяцэзіі. Сьвяточнае набажэнства ўзначаліў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), з якім саслужылі ераманахі з ордэну Айцоў Піяраў з Ліды і Шчучына. Прысутнічалі шматлікія рыма-каталіцкія сьвятары з навакольных парафіяў, а таксама шматгадовы душпастыр мясцовай праваслаўнай парафіі.

«Храм, у якім мы сёньня молімся, быў пабудаваны айцамі піярамі, і быў ён сьведкам духовага клопату Касьцёлу пра навучаньне моладзі. У мястэчку Лужкі дзейнічала ў свой час і ўніяцкая царква. Каштоўная традыцыя заахвочвае нас усіх да малітвы. Гэта вельмі добра, што можам тут сёньня маліцца ў экуменічнай супольнасьці: рыма-католікі, грэка-католікі (якіх калісьці называлі ўніятамі), праваслаўныя.



На пачатку новага навучальнага году хочам асабліва маліцца за моладзь і за ўсіх настаўнікаў. Хочам таксама ўзгадаць у малітве тых, хто адышоў да вечнасьці і склаў сьведчаньне вернасьці хрысьціянскім каштоўнасьцям», – сказаў у казаньні Архімандрыт Сяргей.

Пасьля набажэнства ў касьцёле сьвятары і вернікі маліліся таксама на мясцовых каталіцкіх могілках.

*Паводле Svjazep.org*

дыякан Пётр РУДКОЎСКІ, ОР

# Сэнс каранаваньня марыйных іконаў

***Напрыканцы чэрвеня і ў першай палове ліпеня беларускія дарогі і сьцяжынкі напаўняюцца пілігрымамі-вернікамі, якія кіруюцца да сьвятыняў-крыніц, месцаў, дзе Божая Любоў дае аб сабе знаць асаблівым чынам. Будслаў, Тракелі, Полацак, Браслаў, Гудагай – гэта толькі некалькі беларускіх асяродкаў духоўнай гравітацыі. А колькі іх ва ўсім сьвеце!***

Наблізіўшыся да жыватворнай крыніцы, мы можам пабачыць шэраг прыладаў-сродкаў, прапанаваных нам для таго, каб як мага больш пачэрпнуць з крыніцы. А гэтай крыніцай ёсьць ніхто іншы, а толькі Ісус Хрыстос, Бог-Чалавек, Скала, з якой б'е вада жыцьця *(пар. Ян 3, 27; 1 Кар 10, 4).* Існуе, аднак, небясьпека, што мы ўсю сваю ўвагу скіруем на гэтыя прылады, а забудзем пра саму крыніцу.



• 22.08.2009. Каранаваньне іконы ў Браславе.

Адной з такіх «прыладаў» зьяўляецца звычай каранаваньня абразоў Маці Божай. Сёлета ў Беларусі ажно дзьве марыйныя іконы атрымліваюць папскія кароны – Тракельская (5 ліпеня) і Браслаўская (ускладаньне каронаў – 22 жніўня). У мінулыя гады каранаваны былі абразы ў Будславе, Гудагаі, Горадні, Берасьці і Лагішыне.

Звычай каранаваньня марыйных ікон усталяваўся ў 16-17 ст., г. зн. у перыяд контррэфармацыі. У часе інтэнсіўнай дыскусіі з пасьлядоўнікамі Марціна Лютэра была, несумненна, патрэба падкрэсьліць моцна і рашуча, што Марыя зьяўляецца Багародзіцай і таму яна найбольш поўна і глыбока спасьцігла таямніцу Ўцелаўлёнага Слова. А калі так, то яе роля ў гісторыі збаўленьня пераўзыходзіць ролю любога іншага чалавека.

Слушнае падкрэсьліваньне выключнай ролі Марыі ў гісторыі збаўленьня можа мець, аднак, і свой «ценявы» бок. Калі такія падзеі, як паломніцтвы да марыйных санктуарыюмаў альбо каранацыі марыйных іконаў не суправаджаюцца адпаведнай катэхезай, то могуць нарадзіць у вернікаў перакананьне, што гэта Марыя, а не Хрыстос, зьяўляецца крыніцай збаўленьня. Больш таго, можа нават замацавацца проціпастаўленьне «міласэрнай Марыі-Маці» «разгневанаму Богу-Айцу» (дастаткова прыгадаць словы з папулярнай польскай песьні «Serdeczna Matko»: *Lecz kiedy Ojciec rozgniewany siecze, szczęśliwy, kto się do Matki ucieczе – «Калі Айцец, разгневаны, сячэ, шчасьлівы той, хто да Маці ўцячэ»).*

Яшчэ большай небясьпекай ёсьцьператварэньне матэрыяльнага абраза ў асноўны аб'ект пакланеньня. Няма нічога дрэннага ў тым, што хтосьці імкнецца дакрануцца альбо пацалаваць сьвятую ікону. Наадварот, гэта можа быць (і думаю, найчасьцей так бывае) актам сардэчнай малітвы, малітвы, у якую чалавек уключае орган дотыку. Бываюць, аднак, сітуацыі, калі даводзіцца сумнявацца ў тым, што такі дотык – акт малітвы. З прыкрасьцю даводзілася назіраць, як сёлета ў Тракелях пасьля асноўнай Імшы многія вернікі палічылі патрэбным «любой цаной» дакрануцца да каранаванага абраза. У выніку – штурханіна, узаемныя абразы, адмоўныя эмоцыі. Відавочна,што для многіх з іх ікона сталася самамэтай, аб'ектам, надзеленым боскімі прыкметамі. А гэта ўжо нешта накшталт ідалапаклонства.



• 05.07.2009. Урачыстасьць каранаваньня іконы ў Тракелях.

Абраз – гэта своеасаблівы сымбаль, і яго вартасьць вынікае з таго, што яна скіроўвае нашую ўвагу на духоўную рэчаіснасьць. І ўсе дзеяньні з ім (працэсіі, каранаваньні) маюць сымбалічнае значэньне. А сымбаль губляе сваю першапачатковую функцыю, калі становіцца «рэччу-ў-сабе», г. зн. калі ўся ўвага (альбо большая яе частка) кіруецца на дадзены матэрыяльны аб'ект, а не рэчаіснасьць, на якую ён указвае. Тое ж самае стасуецца і актаў ушанаваньня. Тут, думаю, да месца будзе зьвярнуць увагу на выказваньні, якія выкарыстоўваюцца ў катэхезах і пропаведзях. Напрыклад, ускладаючы кароны на ікону, мы не «каралуем Марыю», а толькі пры дапамозе гэтага сымбалічнага акту ўзгадваем яе духоўнае каранаваньне ў нябёсах. Калі мы прымаем ікону ў свае сем'і альбо парафіі, то прыгадваем яе пастаянную прысутнасьць сярод нас у якасьці Маці Бога і Маці Царквы, аднак «вандраваньне іконы» – гэта далёка ня тое самае, што «вандраваньне Марыі». Думаю, варта быць больш асьцярожнымі пры выкарыстаньні метафараў, дзе акты, выкананыя на іконе, прэзентуюцца як акты, выкананыя на самой Марыі.

Галоўнае, аднак, памятаць, што Марыя ёсьць «поўнаю ласкі», аднак яна не зьяўляецца крыніцай збаўчых ласкаў, зьяўляецца Багародзіцай, але ня Богам, «сьвятыняй Духа Сьвятога», але ня Духам Сьвятым. Супрацьпастаўленьне «міласэрнай Марыі» «разгневанаму Айцу» зьяўляецца фатальным тэалагічным непаразуменьнем, бо ўся любоў і міласэрнасьць, якая ўласьціва Марыі, бярэ пачатак менавіта ў сэрцы Бога-Айца. Гэта Бог-Айцец зьяўляецца крыніцай усякіх ласкаў, Бог-Сын зьяўляецца адзіным Пасярэднікам у паяднаньні з Айцом *(пар. Дз 2, 12; 1 Цім 2, 5),* а натхняльнікам і правадніком у гэтым паяднаньні ёсьць Дух Сьвяты. Важна, каб такія рэлігійныя падзеі, як каранаваньне іконаў Марыі, скіроўвалі ўвагу і сэрцы да самога Бога ў Тройцы.

*Catholic.by*

# Новыя душпастыры ў сталічнай парафіі

***Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) будзе ажыцьцяўляць душпастырскую апеку грэка-каталіцкай парафіі сьвятога і праведнага Язэпа ў Менску замест а. Андрэя Абламейкі, які накіраваны на вучобу ў Аўстрыю.***

У душпастырскай працы ў гэтай сталічнай парафіі архім. Сяргею (Гаеку) будзе дапамагаць высьвячаны на сьвятара 23 жніўня 2009 году ў Полацку а. Алесь Аўдзяюк, віцэ-канцлер курыі Апостальскага Візітатара. Ён будзе таксама займацца акадэмічным душпастырствам сярод студэнтаў, што праходзяць навучаньне ў сталіцы Беларусі.

Сёньня ў Менску для беларускіх грэка-католікаў служаць таксама а. Яўген Усошын (віцэ-дэкан у Менску і Менскай вобласьці) і а. Пахом Кавалёў.

# Найсьвяцейшая Тройца як ідэал ЕДНАСЬЦІ

***Сёлета Украінская Грэка-Каталіцкая Царква адзначае 20-годдзе выхаду з падпольля і легалізацыі сваіх сруктураў. Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір Гузар распавядае пра веру, свабоду і Божы провід у інтэрв'ю журналістам часопісу «Український тиждень» Алене Чэкан і Віктару Яленскіх.***

Ад часу, калі УГКЦ перанесла сваю Архібіскупскую катэдру ў Кіеў, з нібыта лакальнай заходнеўкраінскай зьявы яна зноў, праз 400 гадоў, ператварылася ў адну з самых магутных памесных Цэркваў і адначасова сутыкнулася з абвінавачаньнямі з боку іншых хрысьціянскіх канфесіяў у празелітызьме (пераманьваньні вернікаў) на «чужой кананічнай тэрыторыі». Аднак яе першаярарх на працягу апошніх васьмі гадоў Яго Блаславенства Любамір (Гузар) ставіцца да гэтых нападак пафіласофску і больш займаецца агульнымі пытаньнямі веры і праўды.

## Пра Еўропу

***– Ваша Блаславенства, цяпер Стары кантынент становіцца ўсё менш хрысьціянскім. Чаму цэрквы ў Кіншасе або ў Багаце перапоўненыя, а ў Парыжы або ў Берліне апусьцелі?***

– Гэта віна Еўропы. Еўропа не захавала, не зразумела ці забыла свой Божы дар. Але ці варта сёньня з Еўропы рабіць цэнтр усяго? Шмат бліскучых цывілізацыяў зьніклі ў глыбінях гісторыі. Еўропа адыгрывае значную ролю ў гісторыі чалавецтва толькі ў апошнія дзьве тысячы гадоў, а гэта зусім няшмат. Яна перажывала станаўленьне, узьлёт, а сёньня на яе, магчыма, насоўваецца заняпад. Зьмярканьне Еўропы, як пісаў Освальд Шпэнглер. Праўда, ён казаў пра гэта яшчэ дзевяноста гадоў таму.

***– Калі кардынал Рацынгер прыняў імя Бенядыкта – не Яна Паўла III і не Яна XXIV, а Бенядыкта – у гонар сьвятога апекуна Еўропы – ён, мабыць, гэтым падкрэсьліў, што хацеў бы бачыць Еўропу іншаю?***

– Несумненна. Калі ён выступаў перад намі на канклаве, то даў гэта зразумець. Думаю, што ня толькі Папа Бенядыкт XVI хацеў бы бачыць Еўропу цэнтрам нашай цывілізацыі, каб яна адрадзілася і яшчэ адыграла сваю вырашальную ролю ў гісторыі. Гэта ня вузкі еўрапейскі патрыятызм, не – проста Еўропа яшчэ здольная духоўна паслужыць сьвету. Праз Еўропу шмат сьвету было хрысьціянізавана. Праз еўрапейскую філасофію, культуру, навуку шмат людзей на іншых кантынентах атрымалі разьвіцьцё. У Папы ёсьць вялікае жаданьне дапамагчы Еўропе адшукаць і рэалізаваць сваю ўнутраную духоўную сілу. Гэта ня значыць, што Еўропа прызначана навекі існаваць: як зьніклі калісьці вялікія цывілізацыі, так можа зьнікнуць і Еўропа. Мне падаецца, што чым хутчэй яна зрачэцца сваёй хрысьціянскай спадчыны, тым хутчэй гэта можа адбыцца. Але я веру, што Еўропа яшчэ ня вычарпала свае вялікія сілы.

***– Скажыце, калі б Папа зьвярнуўся да Вас: «Ваша Блаславенства, акрэсьліце мне на паперы праблемы, якія Вы лічыце патрэбным разгледзець на III Ватыканскім Саборы»? Што б Вы паставілі на першыя пазіцыі?***

– Спадзяюся, усё ж такі заўтра не атрымаю ліст ад Папы з такой просьбай. Наогул адчуваю, што самай галоўнай тэмай ёсьць адсутнасьць еднасьці паміж людзьмі, асабліва паміж тымі, хто верыць у Ісуса Хрыста. Калі мы няздатныя жыць адзін з адным у міры, дык ці сапраўды мы ёсьць вернікі? Ісус Хрыстос сказаў: «Любіце адзін аднаго і будзьце адно». А мы кажам: «я не буду з табой маліцца, таму што ты мне не падабаешся, ты не такі, як я». Якое ж гэта нашае хрысьціянства? II Ватыканскі Сабор паставіў перад сабой задачу зрушыць гэтую справу з месца. Дзякуем за гэта прарочаму духу Папы Яна XXIII, які адкрыў акно і ўпусьціў сьвежае паветра. Той Сабор шмат цікавага прапанаваў, але мы пакуль яшчэ неспаўна гэта выконваем. Далей, мне здаецца, што вельмі важнаю зьяўляецца справа годнасьці чалавека. Трэцяя тэма: паняцце царквы, паняцце ўзаемадзеяньня царквы і грамадзтва. Бачыце, што сёньня сталася? Некаторыя людзі кажуць: Царква разьдзяляе – прэч Царкву. Ёсьць розныя рэлігіі, значыць, Бог разьдзяляе – прэч Бога. Для іх ёсьць іншы выдатны ідэал – братэрства людзей, гэта значыць глабалізацыя. Адна з важных тэмаў, над якой мы павінны былі б думаць і працаваць, – што значыць Бог у нашым жыцьці і ці магчымы рух чалавецтва бяз Бога?



## Пра еднасьць і паразуменьне

***– Такім чынам, з усіх тэмаў першай Вы згадалі адсутнасьць хрысьціянскай еднасьці. І вялікіх прарываў на гэтым шляху ня бачна. У Рыме кажуць, што ісьціна толькі ў нас, і ў Маскве гавораць тое самае. Хрысьціяне нібы апусьцілі рукі, пагадзіліся з тым, што еднасьць недасяжная. Давайце, кажуць яны адзін аднаму, прынамсі ня будзем сварыцца і прымірымся з падзелам...***

– Бракуе веры, бракуе веры. Няма еднасьці, няма парадку, мы баімся верыць, баімся зрабіць той апошні крок і аддаць сябе цалкам Богу. Мы ўвесь час шукаем розныя апраўданьні – як зрабіць, каб не зрабіць апошняга кроку, вырашальнага кроку...

***– Ваша Блаславенства, а ці верыце Вы ў еднасьць прынамсі ўкраінскіх Цэркваў?***

– Яна павінна быць, але ці будзем мы тады, калі гэта адбудзецца?.. Еднасьць – гэта таксама ёсьць дар Божы. Але здаецца мне, што ўсе жадаюць яго прыняць на ўласных умовах. Ніхто ня хоча зьмяняцца, кажуць – няхай увесь сьвет зьменіцца, але не прымушайце зьмяняцца мяне...

***– Вы так ці інакш увесь час вяртаецеся да пытаньня ідэнтычнасьці грэка-каталіцкай Царквы. Што Вы думаеце пра яе місію?***

– Разумею ідэнтычнасьць як тое, да чаго я пакліканы. Гасподзь Бог мяне стварыў і да чагосьці паклікаў, ня выкінуў мяне. Я, зьдзяйсьняючы гэтае Божае пакліканьне, ёсьць сабою, але ў супольнасьці. Гэта робіць мяне мною. Гэтак сама і народы. Гэтак сама і памесныя Цэрквы. Якая тэндэнцыя заўсёды пераважала? Выкарыстоўваць культуру, мову, сваё разуменьне Бога для разьдзяленьня. Але запаведзь Божая быць адно – гэта не капрыз, гэта тое, што ёсьць насамрэч падстаўовым. Гасподзь дае нам ідэал еднасьці – Найсьвяцейшую Тройцу, адзін Бог у трох Асобах. Так і чалавецтва – яно жыве ў мностве праяваў, але павінна быць адно. А місію нашай Царквы я бачу ў тым, каб паказваць людзям, што так званыя каталіцкі і праваслаўны сьвет могуць быць разам, бо дэ-факта нашая Царква аб'ядноўвае элементы двух вялікіх культур – лацінскай і візантыйскай, дазваляючы кожнай заставацца сабою.

***– У Вашай Царквы ёсьць праблемы з праваслаўнымі. Маскоўскі патрыярхат гадамі кажа пра зьнішчаныя грэка-каталікамі тры праваслаўныя япархіі, пра выкраданьне душ. Чаму б не скарыстацца візітам ва Ўкраіну Патрыярха Кірыла і не абмеркаваць нарэшце ўсе праблемы?***

– Размаўляць заўсёды добра, але калі гэта шчырая размова. Калі шчырасьць ёсьць відавочнаю, а не заменена штучнай дыпламатыяй, то гэта быў бы нармальны працэс. Нават у сям'і калі-нікалі сварацца...

***– Але чаму ж няма такой сустрэчы?***

– Таму што мы кепскія хрысьціяне.

***– Вы хацелі б сустрэцца з патрыярхам Маскоўскім, калі ён прыедзе ва Ўкраіну, каб паразмаўляць з гэтай нагоды?***

– Я хацеў бы быць упэўнены, што такое шчырае жаданьне будзе з абодвух бакоў. Што мы сапраўды хочам гэтага. Безумоўна, патрэбныя пэўныя жэсты ...

***– Вы асабіста хочаце гэтага?***

– Я б ад гэтага не ўцякаў. Толькі ня трэба рабіць перадумоваў. Гэта павінна быць жаданьне абодвух бакоў. Ёсьць такая недарэчная сітуацыя для мяне: чаму былы Патрыярх Маскоўскі не хацеў сустракацца з Папамі (пра цяперашняга ня ведаю)? Ці была б ад гэтага шкода? А памятаеце сустрэчу зьверхнікаў Цэркваў, калі яны сышліся на Сьвятой Зямлі, пацалавалі адзін аднаго і сьвет зьмяніўся? (Гаворка ідзе пра сустрэчу Папы Паўла VI з Усяленскім Патрыярхам Атэнагорам I у 1965 г., калі былі зьнятыя анафемы, якія былі цяжарам над сумленьнем праваслаўных і каталікоў з 1054 г. – *«УТ»*) Вельмі проста. Без страшэнна вялікай дыпламатыі і ўмоваў. Я быў бы вельмі рады сустрэцца з Маскоўскім Патрыярхам, калі б ён гэтага хацеў, або калі б сышліся Патрыярх з Папам бяз сьведкаў у адным пакоі і проста пагаварылі, – ня трэба гэтых фанфараў...

***– Але, падобна на тое, што сустрэчы не плануецца...***

– Я ня супраць сустрэчы. Добра было б, каб тыя людзі, якіх я прадстаўляю, і тыя людзі, якіх прадстаўляе Патрыярх Кірыл, паверылі ў нашу добрую волю, што мы ня робім гэта дзеля нейкай таемнай мэты. Я б нават з радасьцю сустрэўся з Уладыкам Уладзімірам (зьверхнікам Украінскай праваслаўнай Царквы ў еднасьці з Маскоўскім Патрыярхатам – «УТ»). Аднак сапраўднага водгуку з таго боку няма. Быў адзін, але фармальны. Вы памятаеце, калі гаворка ішла пра прыезд Алексія II ва Ўкраіну. Я тады напісаў, што калі ён едзе адведаць сваіх вернікаў, то я з гэтага цешуся, і быў бы вельмі рады, калі б ён наведаў і мяне. Госпадзе, што пачалося! Хто ён такі, гэты Гузар, што ён Патрыярха запрашае? А чаму нельга? Я не лічу сябе якімсьці супермэнам, але... І вось я цяпер ціха сяджу і думаю, што зараз яны абмяркоўваюць, хто, дзе, на якой прыступцы стаяцьме... Думаю, будзе яшчэ больш пафасна, чым за Алексія II. Прастата, непасрэднасьць была б лепш, без усялякіх закулісных прыгатаваньняў і дамоўленасьцяў.

***– Магчыма, гэта адбываецца таму, што праваслаўныя ня хочуць бачыць Патрыяршы Сабор Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Кіеве?..***

– А дзе іхні акт прыватызацыі? Я сабе таксама магу сказаць, што гэта зямля маіх бацькоў. Ці ж я меншы ўкраінец, чым хтосьці? Мы не пераехалі ў Кіеў, мы вярнуліся ў Кіеў. Бачыце, да чаго мы даходзім у XXI стагоддзі. Кажам: «гэта кананічная зямля, гэта праваслаўная зямля, гэта мусульманская зямля»... Чаму ня даць кожнаму месца пад сонцам? Ці ж мы камусьці забараняем быць праваслаўным у Львове?

### *Пра вечнае*

***– Ваша Блаславенства, цяпер усюды гавораць пра эканамічны крызіс, і ў інтэрв'ю некаторых сьвятароў (і праваслаўных, і грэка- і рыма-каталіцкіх) гучыць зларадзтва – а мы, маўляў, вас папярэджвалі ... Няўжо Царква на самой справе хоча, каб яе верныя хутчэй укленчылі перад Богам, Які карае, чым прагнулі прыйсьці да Бога, Які любіць?***

– Гэта фундаментальнае пытаньне. Спаконвеку былі сьвятары, казаньні якіх – бясконцае дакараньне людзей. Да такога казаньня ня трэба доўга рыхтавацца, заўсёды можна знайсьці тое, за што можна іх палаяць. Гэта лягчэй, чым любіць – любоў патрабуе працы, каб рабіць камусьці канкрэтнае дабро, патрабуецца давер да чалавека. Адным словам, трэба сябе перабароць, перамагчы, каб мець магчымасьць любіць. Сапраўдныя хрысьціяне – ня тыя, якія злараднічаюць, а тыя, якія любяць.

***– Сацыёлагі сьцьвярджаюць, што людзі больш вераць у рай, чым у пекла. Яны схільныя больш верыць у добрыя ўзнагароды, чым у злую адплату. Чаму?***

– Чаму цяжка верыць у пекла? Бо гэта ёсьць вечная кара нам, людзям. Спалучыць любоў, міласэрнасьць Божую з паняцьцем вечнае кары – гэта з таго, што мы бясьсільныя цалкам зразумець. Так, усё залежыць ад Бога, але чалавек таксама адказны. Госпад стварыў нас свабоднымі. Ніхто так не паважае нашай свабоды, як Бог. Але мы ня маем адвагі быць свабоднымі. Таму што быць свабодным – гэта значыць быць адказным. Мы гаворым пра свабоду, цешымся свабодаю, жадаем свабоды, падкрэсьліваем сваё жаданьне свабоды, але на самой справе баімся яе. Мы хочам сябе крыху забясьпечыць: я іду супраць волі Божай, але ж Ён мяне любіць і гэта, так бы мовіць, скрозь пальцы прапусьціць. Гэты самападман і ёсьць страхам перад свабодай.

***– Яшчэ адно неспасьцігальнае, Уладыка. Многія хрысьціяне ня здольныя ўсьвядоміць: няўжо мільярды людзей, якія не зьяўляюцца хрысьціянамі, ня збавяцца? Другі Ватыканскі Сабор ня даў канчатковага адказу на гэтае пытаньне. Ня толькі для звычайных людзей, але і для багасловаў гэтае пытаньне – ці ёсьць ісьціна і збаўленьне па-за межамі хрысьціянства – вельмі цяжкае...***

– Тут мы стаім перад таямніцаю Провіду Божага. І мы не павінны спрабаваць быць Богам. Бог ведае, што робіць. Ён мог бы так зрабіць, каб у нейкі такі цудоўны спосаб у адзін добры дзень уся зямная куля раптам атрымала б сьвятло, і ўсе народы, усе людзі, дзе б яны ні былі, раптам былі б прасьветленыя – Месія зьявіўся. Але Госпад Бог чамусьці гэтага не зрабіў. Ён прыйшоў, зрабіў Сваю місію, Яго ўкрыжавалі на крыжы, і Ён скончыў Сваё жыцьцё словам «зьдзейсьнілася» – гэта значыць Мая місія скончана, Я зрабіў тое, што павінен быў зрабіць. Але Ён пакідае Царкву, зьбірае групу людзей і кажа ім – ідзіце па ўсім сьвеце, распавядайце, што бачылі і чулі. І яны пайшлі – Царква з таго часу і да самага канца сьвету мае гэтае заданьне: ісьці і прапаведаваць. Гасподзь дзейнічае ў такі спосаб, які мы, людзі, не разумеем. Мы пытаемся, чаму ў велізарным Кітаі шмат людзей, якія нават ня чулі слова «Хрыстос». Чаму Госпад Бог дазваляе, каб у Еўропе, дзе хрысьціянства мае такую гісторыю, былі людзі, якія чулі пра Ісуса Хрыста, але не зразумелі, Кім Ён ёсьць. Мы ня ведаем, чаму Госпад Бог гэта дазваляе. І мы задаем сабе пытаньне – няўжо ўсе людзі, да якіх яшчэ не дайшла навука Хрыстова, якія яшчэ не прынялі Хрыста, якія яшчэ не ахрышчаныя, – няўжо яны ўсе аўтаматычна асуджаныя на пагібель, на вечную кару? Але кара за што? Якая іх віна? Ісус Хрыстос сказаў – хто ня ёсьць ахрышчаным, ня можа быць збаўленым. Той, хто спазнаў Хрыста, але не ўспрыняў Яго, той сьвядома адхіліў збаўленьне, але той, хто не спазнаў, той ня мог адкінуць, таму за што ж яго караць? Але толькі Госпад Бог зьяўляецца Ўладаром сьвету і ведае, што і навошта Ён робіць. І Ён нікога без віны не карае. Як Ён гэта робіць, мы ня ведаем. Нашае чалавечае ўяўленьне тут адпачывае. Мы стаім перад вялікаю таямніцаю, якая ёсьць Божаю таямніцаю. Але няма ніякага сумневу, што Госпад Бог хоча, каб усе збавіліся. Кожнага з нас Бог любіць індывідуальна, моцна і асабліва.

> *“Калі мы няздатныя жыць адзін з адным у міры, дык ці сапраўды мы ёсьць вернікі? Ісус Хрыстос сказаў: «Любіце адзін аднаго і будзьце адно». А мы кажам: «я ня буду з табой маліцца, таму што ты мне не падабаешся, ты не такі, як я». Якое ж гэта нашае хрысьціянства?”*

***Пераклад з украінскай***
***І.Бараноўскага***

*"Український тиждень", № 20 (81), 22.05.2009.*

# Мітрапаліт КАНДРУСЕВІЧ: «КАСЬЦЁЛ сёньня не баіцца жыць У БОЖАЙ ПРАЎДЗЕ»

*20 кастрычніка 2009 году спаўняецца 20 гадоў біскупскай хіратоніі Высокадастойнага Архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Менска-Магілёўскага. Шчыра віншуем яго з гэтым юбілеем. У інтэрв'ю* ***Catholic.by*** *(01.08.2009) Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч апавядае пра значныя падзеі, якія адбыліся ў Каталіцкай Царкве ў Беларусі, пра моладзь у Царкве і дачыненьні Царквы і грамадзтва.*

***– Ваша Эксцэленцыя, нашыя размовы ў межах парталу Catholic.by становяцца ўжо традыцыйнымі. Важна, што мы можам абмеркаваць значныя падзеі, якія адбыліся або адбудуцца ў жыцьці Каталіцкага Касьцёла ў Беларусі, і, канечне, адказаць на пытаньні, якія турбуюць нашых наведвальнікаў. Што сапраўды значнага на Ваш погляд адбылося за апошні час у жыцьці Касьцёла ў Беларусі?***

– Дзякую. Каталіцкі Касьцёл у Беларусі не стаіць на месцы, але ў меру сваіх магчымасьцяў стараецца ісьці наперад, выконваючы сваё заданьне – абвяшчэньне Евангелля, асьвячэньне людзей і будаваньне супольнасьці вернікаў.

З апошніх падзеяў найбольш значнымі былі наступныя. Найперш – гэта перэгрынацыя абраза Езуса Міласэрнага і рэлíквіяў нашага земляка блаславёнага кс. Міхала Сапоцькі па парафіях Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Разам з біскупам Антонам Дзям'янкам мы стараліся прысутнічаць амаль ва ўсіх парафіях. Гэта



было нялёгка, маючы на ўвазе іншыя пастырскія справы і ўдзел у розных канферэнцыях як у Беларусі, так і за яе межамі. Я асабіста праехаў за час перэгрынацыі каля 9 тысячаў кіламетраў.

Перэгрынацыя перасягнула ўсе спадзяваньні. Паводле сьведчаньняў сьвятароў, у будні дні, калі ў парафіі знаходзіўся абраз, было больш людзей, чым у нядзелю. Сапраўды, гэтая пастырская акцыя стала сапраўднымі дыяцэзіяльнымі рэкалекцыямі.

Наступнай вельмі важнай падзеяй стала чарговая ўрачыстасьць Маці Божай Будслаўскай. Асабіста мяне вельмі моцна ўразілі пілігрымкі. Я ня раз наведваў пілігрымаў падчас іх малітоўнага шляху ў нацыянальны санктуарый, маліўся з імі. Якое гэта сьведчаньне веры ў наш секулярны час! Вернікі, абсалютная большасьць якіх моладзь, публічна вызнаюць сваю веру і такім чынам праводзяць вельмі актыўную і сапраўды неабходную ў час адыходу ад хрысьціянскіх каранёў евангелізацыю.

Наступнай падзеяй, якая заслугоўвае, каб быць асабліва падкрэсьленай, – гэта каранацыя цудоўнага абраза Маці Божай Тракельскай. Я шмат разоў быў у Тракелях, але яшчэ ніколі ня бачыў там так многа людзей, асабліва моладзі.

Адной з цэнтральных падзеяў з жыцьця Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі стала другая малітоўная сустрэча моладзі ў Івянцы. Гэтая сустрэча была адкрыта і для моладзі іншых дыяцэзіяў. Перад сустрэчай ужо ў сёмы раз адбылася музычная майстэрня, на якой маладыя музыканты набывалі музычную падрыхтоўку і рыхтаваліся да выкананьня абавязкаў музычных аніматараў у сваіх парафіях. Пробашчы многіх парафіяў вельмі ўдзячны арганізатарам майстэрні, якая носіць таксама характар рэкалекцыяў і грунтоўна дапамагае ў разьвіцьці пастырства ў парафіях.

***– Вы ня раз падкрэсьлівалі, што менавіта моладзь займае першае месца ў Вашым сэрцы, менавіта праца з ёй зьяўляецца прыярытэтам Вашай пастырскай дзейнасьці. Адным з галоўных моладзевых пастырскіх мерапрыемстваў стала сустрэча ў Івянцы. Якія вынікі яна прынесла, ці сапраўды гэта той фармат, які стаў блізкім сёньняшняй моладзі?***

– Калі ў сям'і ёсьць дзеці, род працягваецца. Падобна і ў Касьцёле: калі ёсьць дзеці і моладзь, ён мае будучыню. Моладзь – гэта надзея Касьцёла і надзея сьвету, таму ёй трэба займацца, трэба арганізоўваць пастырства моладзі, сустрэчы, канферэнцыі і г. д., каб выхоўваць яе на хрысьціянскіх каштоўнасьцях, а не на антыкаштоўнасьцях сучаснага лібералізму. Гэтаму служаць таксама і малітоўныя моладзевыя сустрэчы.

Ідэя моладзевых сустрэчаў у Івянцы нарадзілася ў мінулым годзе. Як вядома, Каталіцкі Касьцёл кожныя два-тры гады праводзіць Сусьветныя дні моладзі. У мінулым годзе яны адбыліся ў Аўстраліі ў Сіднэі. Вельмі далёка ад нас. З Беларусі змагла паехаць толькі невялікая група маладых людзей. Таму было вырашана правесьці ў гэты ж час агульнабеларускую сустрэчу моладзі ў Івянцы. Сустрэча ўдалася. Аднак мы нават не меркавалі паўтарыць яе ў гэтым годзе. Думалі, можа, падчас наступнага Сусьветнага дня моладзі. Аднак маладыя людзі вельмі прасілі мяне арганізаваць сустрэчу. І я з радасьцю згадзіўся.

Усьлед за згодай ідзе пошук матэрыяльных сродкаў і атрыманьне дазволу ад уладаў. Дзякуй Богу – гэта ўдалося.

Затым наступае сама арганізацыя сустрэчы. Два разы склікалася Дыяцэзіяльная рада па справах моладзі для распрацоўкі праграмы сустрэчы. Была таксама і выязная сустрэча ў Івянцы. У мяне багаты вопыт арганізацыі падобных сустрэчаў. Я прымаў удзел у сямі Сусьветных днях моладзі ў якасьці катэхета. Потым у Расеі Каталіцкі Касьцёл некалькі разоў таксама арганізоўваў агульнарасейскія дні моладзі.

Базуючыся на папярэднім вопыце, была распрацавана праграма, якая ўключала канферэнцыі з магчымасьцю задаваць пытаньні прамоўцу, сустрэча з біскупам, сьвятыя Імшы, сакрамэнт пакаяньня і паяднаньня, аднаўленьне абяцаньняў хросту і сакрамант канфірмацыі, тэатральныя пастаноўкі, час на разважаньне, канцэрты і г. д.

Жыцьцё пакажа, якія вынікі прынесла і прынясе малітоўная сустрэча моладзі ў Івянцы. Аднак ужо сёньня можна сказаць, што ў цэлым яна была пасьпяховаю. Радуе мяне тое, што моладзь была вельмі ўдзячнай за сустрэчу і чакае наступных, бо адчувае ў іх патрэбу.

Я ўбачыў актыўную моладзь, якая задае сур'ёзныя і жыцьцёвыя пытаньні, што хвалююць яе. Моладзь малілася. Больш за тое, да падрыхтоўкі многіх малітоўных праграм яна прычынілася сама. Варта адзначыць, як добра была падрыхтавана моладдзю сустрэча абраза Езуса Міласэрнага і тэатральная пастаноўка пра Божую міласэрнасьць! Які высокі мастацкі ўзровень і які духоўны зьмест!

Мяне вельмі ўзрушыла вялікая колькасьць прыступаючых да сакрамэнту споведзі. Я таксама каля паўтары гадзіны спавядаў «non stop».

Я ўбачыў, што моладзь умее па-хрысьціянску весяліцца. Канцэтры, якія мелі хрысьціянскі і духоўны зьмест, не былі асобнымі мерапрыемствамі, але зьяўляліся інтэгральнай часткай малітоўнай сустрэчы.

Падчас пілігрымак, цэнтральнай урачыстасьці ў Будславе і малітоўнай сустрэчы ў Івянцы моладзь паказала, што ўмее і маліцца, і весяліцца. Як некалі казалі: і да танца, і да ружанца. Брава, моладзь! Ад усяго сэрца дзякую вам!

Адной з мэтаў такіх малітоўных сустрэчаў зьяўляецца стварэньне клімату любові, даверу, узаемаразуменьня. Гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі мы будзем з павагай і любоўю адносіцца адно да аднаго, а таксама памятаючы пра галоўныя мэты дадзеных мерапрыемстваў. Перапрашаю, калі гэта не зусім удалося. Трэба памятаць, што ад нас і нашай сталасьці залежыць будучыня падобных сустрэчаў.

***– На якой мове сёньня павінен размаўляць Касьцёл, каб яна была зразумелай маладому чалавеку?***

Сучасны малады чалавек – гэта чалавек высокаадукаваны і амбіцыйны. У той жа час, гэта чалавек, які стаіць перад велізарнымі выпрабаваньнямі секулярнага сьвету, які вабіць яго, прыцягвае і абяцае хуткае шчасьце. Гэта чалавек, які хоча быць шчасьлівым і шукае шчасьця, але, на жаль, найчасьцей у матэрыяльных каштоўнасьцях і задавальненьні цела. Спрыяе гэтаму агульны клімат ідэалогіі постмадэрнізму, які абвяшчае, што няма абсалютнай праўды і ўсё адносна, што ў сваю чаргу вядзе да маральнага рэлятывізму і жаданьня зьмяніць маральныя нормы, устаноўленыя Богам.

Таму да сучаснага маладога чалавека трэба прамаўляць на зразумелай яму мове і не ўхіляцца ад турбуючых яго праблемаў. Аднак гэтая мова з маральнага пункту гледжаньня павінна гучаць дакладна і канкрэтна: «так» – «так» або «не» – «не». Сапраўдная свабода – гэта не свабода ад адказнасьці, павагі, альтруізму. Сапраўдная свабода – гэта не жыцьцё пад дэвізам «Я маю правa!», а пастаяннае пытаньне: якімі павінны быць мае адносіны да іншых, да іх поглядаў і перакананьняў. Свабода – гэта жыцьцё праўдай адкупленых дзяцей Божых. Ня мае рацыі той, хто робіць амаральнае і апраўдвае сябе тым, што гэта нікому ня шкодзіць. Мы заўсёды павінны жыць Божай праўдай. Таму, як навучае Слуга Божы Ян Павел II, трэба не баяцца адчыніць дзьверы Хрысту. І як дадае Бенядыкт XVI, не баяцца, бо Хрыстус нічога не забірае, а толькі дае. І сёньняшні Каталіцкі Касьцёл не баіцца гэтага рабіць, бо адчувае вялікі патэнцыял сваіх вернікаў, асабліва моладзі.

***– Сёньняшняя моладзь – гэта людзі розных, часта радыкальных поглядаў на сьвет, культуру, сваё месца ў грамадзтве, палітыцы. На Вашу думку, ці можа сёньня Касьцёл стаць для ўсіх іх домам? Які рэцэпт іх творчага, па-хрысьціянску крэатыўнага прабываньня ў супольнасьці, што завецца Каталіцкім Касьцёлам?***

– Дзьверы Касьцёла адчынены для ўсіх – людзей пабожных і грэшных. Касьцёл сьвяты, і адначасова гэта Касьцёл грэшнікаў. Езус сказаў, што ўрач патрэбны не здароваму чалавеку, але хвораму. Касьцёл, які паводле навучаньня II Ватыканскага Сабору зьяўляецца сакрамантам паўсюднага збаўленьня, якраз і ёсьць такім урачом, бо дзейнічае моцаю Збаўцы, і таму гэта сараўдны дом для ўсіх.

Касьцёл заклікае вернікаў да больш актыўнага ўдзелу ў яго жыцьці. Тое, што можна было ўбачыць падчас сёлетніх пілігрымак, урачыстасьці ў Будславе ці ў Івянцы – гэта сапраўдны адказ на навучаньне II Ватыканскага Сабору, якое прадугледжвае актыўны ўдзел у жыцьці Касьцёла пад кіраўніцтвам сьвятароў. Вернікі таксама павінны адчуваць сваю адказнасьць за Касьцёл. Часта мне задаюць пытаньні: калі ў тым ці іншым раёне Менска будзе пабудаваны касьцёл? Мяркую, што гэтае пытаньне не да біскупа, а да саміх вернікаў. Маё заданьне – атрымаць дазволы на будаўніцтва сьвятыні. У Менску ўжо атрымана 6 пляцовак пад будову касьцёлаў. Хто раней будаваў касьцёлы? Самі вернікі. Пра гэта трэба памятаць. Пэўную, цяпер ужо зусім невялікую, дапамогу з-за мяжы мы, можа, і атрымаем, але галоўны цяжар павінны ўзяць на сябе самі вернікі. Так было заўсёды і застаецца актуальным па сёньняшні дзень. Вернікі таксама павінны дбаць пра ўтрыманьне будынка. На жаль, у нас прыжылося меркаваньне, што за ўсё адказны сьвятар. Касьцёл належыць не сьвятару, але вернікам. Сьвятар нейкі час працуе ў адной парафіі, затым можа быць пераведзены ў іншую. Дарэчы, таксама і біскуп.

***– Ваша Эксцэленцыя, як Вы лічыце, ці застаецца яшчэ сёньня прывабным Евангельле, ці мае яно моц само ў сабе? Можа, у яго прапаведаваньні павінны ўжывацца разнастайныя каталізатары, напрыклад, палітычнай натуры?***

– Сапраўды, у наш час секулярызму можна пачуць, што Евангельле і хрысьціянства наогул ужо выкаранілiся. Аднак у мяне паўстае пытаньне: якое хрысьціянства? Тое павярхоўнае, якое імкнецца зьмяняць маральныя нормы? Якое адракаецца ад сваіх каранёў? Якое не падпарадкоўваецца навучаньню Касьцёла і Папы? Так, сапраўды, такое хрысьціянства адмерла.

Не мы павінны зьмяняць Евангельле, але Евангельле павінна зьмяняць нас. Касьцёл чакае ад нас евангельскага радыкалізму, бо хоць і зьмяняецца сьвет, аднак маральныя нормы застаюцца нязьменнымі. Евангельле не страціла свайго значэньня. Праблема ў тым, што чалавек губляе зацікаўленасьць у ім. Нам часта даводзіцца чуць, што людзі страцілі сэнс свайго жыцьця, асабліва моладзь. Аднак, тыя, хто жыве ў значна больш складаных сітуацыях, здолелі ня страціць апоры ў вечна жывым слове Евангельля, бо шукалі і працягваюць яе шукаць. Таму яно для іх прывабнае і мае моц.

Каталізатарам сапраўднага хрысьціянства ня можа быць ганеньне на Касьцёл, бо многія кажуць, што падчас перасьледу вера была мацнейшая, а ў наш час – слабейшая. Вера мае наднацыянальны характар, надпалітычны, надэканамічны і г. д. Паводле сацыяльнага вучэньня Касьцёла, якое пададзена ў Кампендыуме, «Патрабаваньні хрысьціянскай веры немагчыма зьмясьціць у нейкай адной палітычнай платформе. Сьцьвярджаць, што нейкая палітычная партыя ці кааліцыя поўнасьцю адпавядае патрабаваньням веры і хрысьціянскаму жыцьцю – гэта значыць садзейнічаць узьнікненьню небясьпечнай памылкі. Хрысьціянін ня знойдзе партыі, якая поўнасьцю адпавядала б этычным патрабаваньням, што вынікаюць з веры і з прыналежнасьці да Касьцёла. Прыналежнасьць хрысьціяніна да якой-небудзь палітычнай групоўкі ніколі не павінна быць ідэалагічнай, але заўсёды крытычнай, каб партыя і яе палітычная платформа атрымлівалі стымул для разьвіцьця, якое будзе скіравана на сапраўднае агульнае дабро разам з духоўнай мэтай чалавека» *(Кампендыюм сацыяльнага вучэньня Касьцёла, № 573)*. Павінен быць адзін каталізатар – гэта наша вера, любоў і надзея на Бога.

***– Як Вы лічыце, якую пазіцыю займае сёньня Каталіцкі Касьцёл у Беларусі ў грамадзкім жыцьці краіны, ці належная яна?***

– Галоўным заданьнем Касьцёла зьяўляецца прапаведаваньне Евангелля. Гэта значыць абвяшчэньне праўды Божай. Праўда Божая абвяшчаецца праз навучаньне, катэхізацыю, набажэнствы, дабрачыннасьць, праз усю дзейнасьць і сьведчаньне Касьцёла. Касьцёл заклікае і дапамагае захоўваць права Божае, абараняць сям'ю – адзіны і непарушны інстытут, устаноўлены Богам, права на жыцьцё – найвышэйшую каштоўнасьць, дадзеную Богам, права на свабоду веравызнаньня, заклікае і дапамагае змагацца з такой вялікай бядой, як алкагалізм, да якога далучыліся наркаманія і СНІД, заклікае да сацыяльнай справядлівасьці і г. д.

Каталіцкі Касьцёл праз Канферэнцыю Біскупаў, праз асобных ярархаў або праз сродкі масавай камунікацыі неаднойчы выказваўся адносна балючых праблемаў сучаснасьці і грамадзтва. Выказваўся таксама ў супольнасьці з іншымі хрысьціянскімі і нехрысьціянскімі веравызнаньнямі, найперш з Праваслаўнай Царквой. Гэта былі праблемы сям'і, абортаў, распаўсюджваньня, прафілактыкі і лячэньня алкагалізму, наркаманіі і СНІДУ; праблемы вяртаньня касьцёльных будынкаў і атрыманьня дазволу на будаўніцтва новых; праблемы служэньня замежных сьвятароў, законьнікаў і законьніц; праблемы сацыяльнай справядлівасьці; праблемы этыкі ў

Працяг на с.12 ⇨

### Мітрапаліт КАНДРУСЕВІЧ:

# «КАСЬЦЁЛ сёньня не баіцца жыць у БОЖАЙ ПРАЎДЗЕ»

⇨ Пачатак на с. 10-11

сродках масавай камунікацыі; праблемы, выкліканыя сучасным фінансавым крызісам і г. д. Ці зьяўляецца належнай пазіцыя Касьцёла? Адказ можа даць толькі Бог. Езус казаў: не судзіце і вы ня будзеце асуджаны. Напэўна, трэба памятаць і тое, што дасканалы толькі Бог і межаў дасканаласьці няма.

***– У адным з інтэрв'ю Вы казалі, што Касьцёл ня з гэтага сьвету, але знаходзіцца ў ім і не павінен уцякаць ад яго праблемаў. Скажыце, ці забараняе Касьцёл сваім вернікам удзельнічаць у палітычным і грамадзкім жыцьці? Дзе мяжа, якую нельга перакрочыць, каб ня стаць ахвярай сучаснага рэлігійна-палітычнага сінкрэтызму?***

– Кажучы, што Касьцёл ня з гэтага сьвету, але знаходзіцца ў ім і не павінен уцякаць ад яго праблемаў, я толькі працытаваў блаславёнага Папу Яна XXIII, з якім абсалютна згаджаюся. Касьцёл не забараняе сваім вернікам удзельнічаць у палітычным жыцьці. Касьцёл забараняе сьвятарам выстаўляць сваю кандыдатуру на выбары ў заканадаўчыя і выканаўчыя органы ўлады. Затое ён заахвочвае вернікаў прымаць удзел у палітычным і грамадзкім жыцьці, бо менавіта яны, калі будуць сапраўднымі хрысьціянамі, будуць спрыяць, каб маральныя прынцыпы захоўваліся пры прыняцьці законаў і іх практычным выкананьні. Тут ня можа быць рэлігійнай паліткарэктнасьці, як ня можа быць і рэлігійна-палітычнага сінкрэтызму.

Сучаснае сацыяльнае вучэньне Каталіцкага Касьцёла пра Касьцёл і палітычную супольнасьць кажа так: «Касьцёл не атаясамліваецца з палітычнай супольнасьцю і не зьвязаны ні з адной палітычнай сістэмай, паколькі палітычная сістэма і Касьцёл дзейнічаюць кожны ў сваёй сферы» *(Кампендыюм сацыяльнага вучэньня Касьцёла, № 50).* «Хаця Касьцёл і палітычная супольнасьць маюць бачную арганізацыйную структуру, яны адрозьніваюцца па сваёй канфігурацыі і мэтах… Касьцёл паважае законную аўтаномію дэмакратычнага парадку і ня мае права аддаваць перавагу таму ці іншаму інстытуцыйнаму ці канстытуцыйнаму рашэньню» *(Кампендыюм сацыяльнага вучэньня Касьцёла, № 424).* Але з іншага боку, «узаемная аўтаномія Касьцёла і палітычнай супольнасьці не азначае разьдзяленьня, якое б выключала супрацоўніцтва. Абедзьве супольнасьці, хоць і розным чынам, служаць асабістаму і сацыяльнаму паклíканьню тых жа самых людзей. Фармальная арганізацыя Касьцёла і палітычнай супольнасьці не зьяўляюцца самамэтай, але служаць чалавеку, каб дапамагчы яму поўнасьцю рэалізаваць правы, уласьцівыя як грамадзяніну і хрысьціяніну, і правільна выканаць адпаведныя абавязкі. Касьцёл і палітычная супольнасьць могуць ажыцьцяўляць сваё служэньне дзеля дабра ўсіх тым больш пасьпяхова, чым лепш яны будуць супрацоўнічаць, беручы пад увагу абставіны месца і часу» *(Кампендыюм сацыяльнага вучэньня Касьцёла, № 425).*

Дазволю сабе прывесьці яшчэ адну цытату з Кампендыюма. «Для сьвецкіх вернікаў палітычная дзейнасьць зьяўляецца годным і адказным выкананьнем хрысьціянскіх абавязкаў служыць бліжнім. Імкненьне да агульнага дабра ў духу служэньня, разьвіцьцё справядлівасьці, асаблівая ўвага да сітуацыі беднасьці і цярпеньня, павага да аўтаноміі зямных спраў, прынцып субсідыярнасьці, падтрымка дыялогу і спакою на аснове салідарнасьці – вось крытэрыі, якія павінны натхняць сьвецкіх хрысьціянаў у іх палітычнай дзейнасьці» *(Кампендыюм сацыяльнага вучэньня Касьцёла, № 565).*

***– Ці дастаткова адкрыты сёньня Касьцёл на грамадзкую супольнасьць, ці не існуюць бар'еры, якія перашкаджаюць у дыялогу з ёй. Ці ня мае дыялог, які вядзе сёньня Каталіцкі Касьцёл у Беларусі, характару селектыўнасьці?***

– Мы стараемся весьці дыялог з усімі. Не заўсёды гэта ўдаецца. Напрыклад, нам не ўдалося арганізаваць аплатковую сустрэчу з ваеннымі па прычыне адсутнасьці сьпецыяльнай дамовы.

Цяжка таксама назваць сапраўдным дыялогам тыя сітуацыі, калі сам факт сустрэчы трактуецца другім бокам, як зьняцьце дагматычных адрозьненьняў.

Кожны дыялог павінен быць у любові і праўдзе, шчырасьці і па добрай волі. Папа Бенядыкт XVI у сваёй апошняй энцыкліцы «Любоў у праўдзе» базуючыся на навучаньні Касьцёла, якое існуе да гэтага часу, сьцьвярджае, што Касьцёл не прапануе тэхнічнага вырашэньня праблемаў, зьвязанных з разьвіцьцём сьвету, і далёкі ад умяшальніцтва ў кіраваньне дзяржавамі, пры гэтым ён павінен выконваць місію праўды дзеля грамадзтва *(пар. Энцыкліка «Любоў у праўдзе», №9).*

На прэс-канферэнцыі мы запрашаем і вядзём дыялог з усімі прадстаўнікамі СМІ. Ніхто і ніколі не праводзіць селекцыі. На галоўнай урачыстасьці ў Будславе і на малітоўнай сустрэчы моладзі ў Івянцы прысутнічалі ня толькі праваслаўныя, але і прадстаўнікі іншых веравызнаньняў. На экуменічныя сустрэчы, якія адбываюцца ў нашых сьвятынях, мы запрашаем прадстаўнікоў іншых канфесіяў. Ня так даўно ў нашай Айчыне была створана Грамадзкая рада па маральнасьці, у якую ўваходзіць Каталіцкі Касьцёл, іншыя хрысьціянскія канфесіі і нехрысьціянскія рэлігіі, разам з прадстаўнікамі грамадзкасьці. *[...]*

***– Вялікі дзякуй за размову.***

***Размаўляў кс. Аляксандр Амяльчэня***

# «Царква павінна быць самастойнаю»



***«Ёсьць старая, старая, спакуса, каб быць блізка да ўлады, а ня блізка да людзей. Гэтая спакуса праяўляецца ў розных часьцінах сьвету, у розныя часы і ёсьць сапраўды вялікаю спакусаю», – сказаў 27 ліпеня 2009 году Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір Гузар у прамым эфіры на ўкраінскім тэлеканале ТВі.***

«Царква, калі хоча быць сапраўды Царквой, не павінна быць ворагам дзяржавы, абсалютна не, але яна павінна быць самастойнаю. Яна павінна жыць згодна з Божымі прынцыпамі. Яна павінна мець адвагу сказаць, нават дзяржаўным структурам, што тое, што вы робіце, няправільна. Гэта ня лёгка, але гэта частка нашага хрысьціянскага жыцьця, нашага хрысьціянскага заданьня. Я сьведамы, што спакуса выслугоўвацца, каб мець пэўныя выгоды, пэўныя ільготы, ёсьць велічэзная. Гэта спакуса, якую трэба пераадольваць», – адзначыў Зьверхнік УГКЦ.

«Ісус Хрыстос устанавіў толькі адну Царкву. Тое, што мы называем памеснымі Цэрквамі – гэта часткі той адной Царквы Хрыстовай», – сказаў Першаярарх УГКЦ, адказваючы на пытаньне пра неабходнасьць існаваньня нацыянальных Цэркваў. Паводле словаў Блаславёнага Любаміра, Царква мае два асьпекты: па-першае, яна ёсьць блізкаю да свайго народу, размаўляе на мове свайго народу, яна стварае мастацтва, уласьцівае свайму народу, яна клапоціцца пра яго асьвету, а нават і пра матэрыяльны дабрабыт. Яна ў хвіліны цярпеньня церпіць разам са сваім народам, у хвіліны радасьці – радуецца. Гэты асьпект можна назваць нацыянальным; па-другое, нельга забываць, што Царква, якую Ісус Хрыстос устанавіў, ёсьць адна для ўсіх людзей, якая б ні была іхняя мова, іхняе паходжаньне, узровень дастатку і г. д. «Мы маем Царкву, якая ёсьць наша родная, блізкая нам, якая з намі жыла на працягу стагоддзяў. Адным словам – зьяўляецца нашай маці. А з другога боку, калі мы не адчуем паўсюднасьці гэтае Царквы, што яна ёсьць для ўсіх людзей, мае адзін цэнтр, выразны сымбаль той еднасьці – Ісуса Хрыста, то мы не зразумеем, што такое Царква», – падкрэсьліў Зьверхнік УГКЦ.

*Паводле Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ*

# Сьвяткаваньне ў Полацку – малітва за Бацькаўшчыну

***З 7 па 12 ліпеня 2009 году адбылася XV юбілейная штогадовая пілігрымка грэка-каталікаў Віцебск-Полацак. Сёлета яна праходзіла пад дэвізам «Крыж Хрыста – знак любові». Удзел у пілігрымцы ўзялі вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы з усіх куткоў Беларусі. Па традыцыі, сярод удзельнікаў былі таксама рыма-каталікі і праваслаўныя.***

Падчас пілігрымкі была наладжана праца ў групах дзяленьня, дзе можна было паразважаць і распавесьці пра свой духоўны вопыт і перажываньні, зьвязанныя з агульнай тэмай пілігрымкі «Крыж Хрыста – знак любові». У месцах начлегу пілігрымы выступілі з канцэртамі духоўнай музыкі для мясцовага насельніцтва.

Канечным пунктам пілігрымкі быў горад Полацак, куды яе ўдзельнікі прыйшлі ў суботу, 11 ліпеня, пад вечар і дзе ў саборы Сьвятой Сафіі маглі паслухаць канцэрт духоўных песьняў у выкананьні міжпарафіяльнага хору «Прасфара».

Увечары ў суботу ў храме сьв. Параскевы Полацкай была адслужана Вячэрня з ліцьцёй і асьвячэньнем хлябоў. На Вячэрні сьпяваў таксама хор «Прасфара» з Менску.

Нядзеля, 12 ліпеня, была ў полацкай грэка-каталіцкай парафіі днём сьвята. Сьвяткаваўся ўспамін сьвятых мучанікаў Барыса і Глеба. Гэта быў таксама Дзень малітвы за Бацькаўшчыну.

Боскую Літургію, якая была адслужаная для пілігрымаў ля храму сьв. Параскевы Полацкай, узначальваў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) у саслужэньні сьвятароў з розных парафіяў БГКЦ, у тым ліку протапрасьвітараў Цэнтральна-Заходняга і Ўсходняга дэканатаў – а. Андрэя Абламейкі і а. Зьмітра Грышана.

Пасьля Боскай Літургіі вернікі мелі магчымасьць ушанаваць часьцінку дрэва Пачэснага Крыжа Гасподняга.

У сьвяточнай Літургіі ўдзельнічалі вернікі полацкай парафіі, госьці з Расеі, Украіны, Італіі, Бельгіі, Польшчы, а таксама пілігрымы з розных парафіяў БГКЦ, у тым ліку скаўты з менскай парафіі Праведнага Язэпа.

У братэрскай атмасферы шчыра і ўрачыста гучала літургічная малітва:

*«За Богам сьцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас Госпаду памолімся. – Госпадзе, зьмілуйся».*

*Паводле Svjazep.org*



# Яна аддала жыцьцё сваё з любові да бліжняга

***13 ліпеня 2009 году Каталіцкая Царква ў Беларусі адзначае дзень успаміну Блаславёнай мучаніцы Марыяны (Бярнацкай). З гэтай нагоды на фартах каля вёскі Навумавічы, што недалёка ад Горадні, сабраліся пілігрымы з розных куткоў Беларусі. Сярод іх было некалькі дзясяткаў грэка-католікаў.***

Сёлета ўшанаваць памяць мучанікаў у Навумавічы прыехалі жанчыны з Сястрыцтва Блаславёнай мучаніцы Марыяны, якое ад нядаўняга часу дзейнічае ў менскай грэка-каталіцкай парафіі Праведнага Язэпа. Яны прывезьлі з сабою ікону Блаславёнай, якую пасьля сьвятой Імшы змаглі ўшанаваць усе прысутныя.

З Горадні прыйшлі ў пешай пілігрымцы вернікі з грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай разам з сваім душпастырам айцом Андрэем Кратом.

Марыяна Бярнацкая (з роду Чакала) нарадзілася ў 1888 году, у Сапоцкінскім краі, у мястэчку Ліпск (цяпер – Польшча), ва ўніяцкай сям'і, дзе нават пасьля скасаваньня Уніі ў 1874-75 гг. вернікі моцна трымаліся каталіцкай веры. Дакладную дату і месяц яе нараджэньня ўстанавіць не ўдалося. Вядома, што ў 1905 годзе, пасьля выданьня царскага ўказу пра верацярпімасьць, у 17-гадовым узросьце, яна разам з сваімі бацькамі перайшла ў каталіцтва лацінскага абраду.

Марыяна Бярнацкая была простай вясковай жанчынай, маці, якая нарадзіла шасьцярых дзяцей. Калі ў мястэчку 1 ліпеня 1943 году пачаліся масавыя арышты закладнікаў за забойства партызанамі нямецкага жаўнера, фашысты прыйшлі па яе сына і нявестку. Каб ўратаваць сваю цяжарную нявестку, якая праз пару тыдняў чакала нараджэньня дзіцяці, папрасіла арыштаваць яе самую. Яна аддала сябе на верную сьмерць, ахвяраваўшы сваё жыцьцё за нявестку і за жыцьцё яшчэ ненароджанага ўнука. Яшчэ амаль два тыдні яна правяла ў вязьніцы ў Горадні і, як адзначаюць тыя, хто выжыў, увесь час заставалася спакойнаю і шчыра малілася, была ўзорам веры і моцнага духу для іншых вязьняў (сярод якіх было і 6 ксяндзоў). Марыяну Бярнацкую гестапаўцы расстралялі на фартах каля Навумавічаў 13 ліпеня 1943 году разам з 49 іншымі закладнікамі. Усяго ў Навумавічах расстраляна каля 5 тысячаў чалавек.

Блаславёная Марыяна (Бярнацкая) стала ўзорам ахвярнае маці шчырага сэрца, адданага Богу, а яе мучаніцкая сьмерць дала пачатак новаму жыцьцю...

Як сказаў у сваім казаньні а. Андрэй Крот, прыклад жыцьця блаславёнай Марыяны



Бярнацкай – гэта ўзор духовага жыцьця звычайнай вясковай жанчыны, якая ў цяжкі час ваеннага ліхалецьця аказалася гатовай адкрыта вызнаць сваю веру, засьведчыць сваю любоў да Бога і бліжняга і якая за гэтае вызнаньне не пабаялася аддаць сваё жыцьцё. Яна ёсьць для нас прыкладам і заахвочваньнем да мужнага вызнаньня Хрыста і ў нашыя часы.

Айцец Андрэй Абламейка ў сваім вітальным слове, якое ён перадаў ад імя Апостальскага Візітатара БГКЦ, адзначыў, што «для нас, беларускіх грэка-католікаў, само існаваньне Аўгустоўскага ўніяцкага дэканату паказвае неразрыўнасьць гісторыі і духоўнай традыцыі нашай Царквы ў Беларусі, а ахвяра жыцьця Блаславёнай Марыяны адкрывае нам нашыя духоўныя карані».

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Паломніцкія шляхі івацэвіцкіх вернікаў

***Напрыканцы лета вернікі івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі пабывалі на двух важных падзеях у жыцьці Каталіцкай Царквы ў Беларусі і БГКЦ – на каранацыі цудатворнага іконы Маці Божай Браслаўскай і на рукапакладаньні новага беларускага каталіцкага сьвятара візантыйскага абраду. У пілігрымку па сьвятынях у паўночнай Беларусі адправілася група з 20 чалавек, у тым ліку і вернікі з Бярозы, якія таксама моляцца ў парафіі Жыровіцкай іконы Маці Божай у Івацэвічах.***

22 жніўня івацэвіцкія пілігрымы прысутнічалі на фэсьце ў Браславе з нагоды ўрачыстай каранацыі цудатворнай іконы Маці Божай Валадаркі Азёраў, якая захоўвалася раней у грэка-каталіцкай царкве і якой да скасаваньня Уніі апекаваліся манахі-базыльяне.

Працяг на с.18 ⇨

# У Рыме памёр Уладыка Марусын

***21 верасьня 2009 году, у сьвята Нараджэньня Багародзіцы (паводле юльянскага календара), у Рыме, ва ўкраінскай Папскай калегіі сьв. Язафата на 86-ым годзе жыцьця спачыў у Госпадзе Высокадастойны Архібіскуп Мірaслаў (Марусын), былы Сакратар Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.***

Уладыка Мірaслаў нарадзіўся 26 чэрвеня 1924 году ў в. Княжэ каля Золачава, на Львоўшчыне.

Багаслоўска-філасофскія студыі ён распачаў у Львоўскай багаслоўскай акадэміі, дзе вучыўся з 1943 г. па 1944 г. Падчас вайны вучыўся ў Падэрборне (Нямеччына), а пасьля, з 1949 па 1951 г. – у Папскім Усходнім інстытуце, здабыўшы там ступень доктара.

Дыяканскія ды сьвятарскія сьвячаньні атрымаў з рук архібіскупа Івана Бучко 24 красавіка і 2 траўня 1948 г. у Рэгензбургу і Мюнхене (Нямеччына). Малады сьвятар стаў блізкім памочнікам – канцлерам і сакратаром – Апостальскага Візітатара для ўкраінцаў у Заходняй Еўропе архібіскупа Івана Бучко. З 1958 году а. д-р Мірaслаў Марусын – сябра Літургічнай камісіі Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў. З прыездам у Рым вязьня савецкіх лагероў мітрапаліта (пазьней – кардынала) Ёсіфа Сьліпога, Зьверхніка УГКЦ, ён стаў яго асабістым сакратаром і суправаджаў яго ва ўсіх душпастырскіх падарожжах па ўсім сьвеце. За асаблівыя заслугі ў 1959 г. Папа Ян XXIII надаў яму годнасьць «Папскага шамбеляна», а Папа Павел VI у 1972 г. прызначыў яго пачэсным пралатам Усяленскага Архірэя. З 1973 г. ён стаў консультарам Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў. У 1974-ым яго паклікалі для выкананьня асабліва важнага заданьня – прызначылі сябрам Папскай камісіі інтэрпрэтацыі дэкрэтаў II Ватыканскага Сабору і консультарам Папскай камісіі па рэвізіі Кодэксу ўсходняга кананічнага права. Яго біскупская хіратонія адбылася 28 ліпеня 1974 году ў Рыме.

З 1977 па 1982 год Уладыка Марусын займаў адказную пасаду віцэ-старшыні Папскай камісіі па рэвізіі Кодэксу Ўсходняга Кананічнага Права, таксама ён уваходзіў у склад супольнай Камісіі багаслоўсага дыялогу з праваслаўнымі Цэрквамі. Уладыка Марусын адзін з тых, хто выканаў вялікую частку працы па падрыхтоўцы Кодэксу канонаў Усходніх Цэркваў. Падчас гэтай працы ён супрацоўнічаў з беларускім Уладыкам Чэславам Сіповічам, якога вельмі цаніў і шанаваў.

14 верасьня 1982 г. Папа Ян Павел II прызначыў яго Сакратаром Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў. На гэтай пасадзе Ўладыка Мірaслаў быў да 11 красавіка 2001 г. Таксама ён зьяўляўся консультарам розных Папскіх Радаў (па спрыяньні хрысьціянскай еднасьці, па справах сьвецкіх і інш.).

Адданае служэньне Ўладыкі Мірaслава Марусына Паўсюднай Царкве адбывалася пры чатырох Рымскіх Архірэях: пры Паўлу VI, Яну Паўлу I, Яну Паўлу II ды пры цяперашнім Папе Бенядыкту XVI.

Кір Мірaслаў быў аўтарам шматлікіх выданьняў ды навуковых працаў багаслоўскага, гістарычнага, літургічнага і біблійнага зьместу.

Казаньні, катэхетычныя павучаньні і набажэнствы, якія адпраўляў Уладыка Мірaслаў Марусын і якія маглі слухаць праз трансьляцыі Радыё Ватыкан вернікі забароненай у СССР Грэка-Каталіцкай Царквы, дапамаглі захаваць веру не адному пакаленьня грэка-католікаў ня толькі ва Ўкраіне, але і на ўсёй савецкай прасторы.

Пахаваньне спачылага Кір Мірaслава адбылося 24 верасьня 2009 г. Пахавальную Літургію ва ўкраінскім саборы Сьвятой Сафіі ў Рыме адслужыў Сакратар Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў архібіскуп Кірыла (Васіль). У той жа дзень, у капліцы Цэнтру сьв. Язэпа ў Менску, Архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі Візітатар БГКЦ, адслужыў Боскую Літургію за супакой душы Ўладыкі Мірaслава.

***Вечная яму памяць.***

# Дэкан БГКЦ айцец А.Абламейка будзе студыяваць у Аўстрыі

***16 жніўня, у дзень Нерукатворнага вобразу Госпаднага, парах менскай парафіі сьвятога і праведнага Язэпа і протапрасьвітар Цэнтральна-Заходняга дэканату БГКЦ а. Андрэй Абламейка адслужыў разьвітальную літургію – цяпер ён накіраваны для навуковых студыяў у Аўстрыю.***

Айцец Андрэй Абламейка быў высьвячаны на сьвятара 16 сьнежня 1998 году (на дыякана – 15 траўня 1991 году) і больш за 10 гадоў служыў душпастырам беларускіх грэка-католікаў у Менску і вобласьці ды пэўны час у Лідзе. Да сваіх сьвятарскіх сьвячаньняў ён 6 гадоў студыяваў на тэалагічных факультэтах у Аламоўцы (Чэхія) і ў Любліне (Польшча). Скончыў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт і мае ступень магістра багаслоўя. Цяпер па блаславеньні царкоўных уладаў ён накіроўваецца на далейшую вучобу ў Аўстрыю, дзе мае намер падрыхтаваць доктарскую працу па праблемах сям'і. Вучыцца і пісаць дысертацыю а. Андрэй Абламейка будзе ў Міжнародным багаслоўскім інстытуце вывучэньня праблемаў сужэнства і сям'і, што ў Гамінгу.

Разам з айцом Андрэем Абламейкам на вучобу ў Гамінг накіроўваецца і яго жонка Сьвятлана. Яна мае намер пісаць магістарскую працу з тэалогіі сям'і.

Міжнародны багаслоўскі інстытут у Гамінгу заснаваны ў 1996 годзе з ініцыятывы папы Яна Паўла II. Ён разьмясьціўся ў ціхіх старажытных мурах былога картузіянскага кляштару, які быў збудаваны яшчэ ў XIV стагоддзі *(гл. фота)*.



Сёньня ў гэтым багаслоўскім інстытуце ў альпійскім мястэчку Гамінг займаюцца навукаю прафесары і студэнты з больш чым 20 краінаў сьвету, якія належаць да розных культур, традыцыяў і абрадаў. Паводле апошніх дадзеных, у інстытуце праходзяць навучаньне каля шасьцідзесяці студэнтаў – мужчынаў і жанчынаў, сьвецкіх і асобаў духоўнага стану. Усе гэтыя навукоўцы пазнаюць Бога ня толькі з кніжак, але і з асасбістага досьведу ў малітве.

Нельга не адзначыць, што сярод тых, хто студыюе ў Гамінгу, католікаў лацінскага абраду не на шмат болей за католікаў візантыйскага абраду. Гамінг сёньня ператварыўся ў адзін з важных асяродкаў усходняй духоўнасьці. Таму пры багаслоўскім інстытуце была створана ўсходняя капліца, росьпіс якой зроблены паводле правілаў візантыйскай іканаграфіі румынскім і славацкім іканапісцамі, якія навучаліся ў Гамінгу. У 2007 годзе, на сьвята Дабравешчаньня, адбылося асьвячэньне капліцы. На гэтай знакавай урачыстай падзеі прысутнічалі архібіскуп Вены кардынал Хрыстаф Шонбарн, першаярарх УГКЦ кардынал Любамір Гузар, а таксама ўкраінскія, румынскія і славацкія грэка-каталіцкія ярархі.

# КУРС АЛЬФА – сустрэчы для тых, хто шукае




*Каля царквы спыняецца дарагая машына.*
*З яе выходзіць мужчына, апрануты ва ўсё фірмовае.*
*Жабрак, які сядзіць ля царквы, цягне да яго руку:*
*– Падайце, Хрыста радзі!*
*Мужчына:*
*– Я атэіст!*
*(Падазрона аглядае жабрака) І вам ня раю…*

***Курс Альфа скіраваны на такіх людзей, як гэты бізнэсовец, – якія ня бачаць у сваім жыцьці месца для Бога, ня ходзяць у царкву. Курс Альфа таксама і для тых, хто традыцыйна, магчыма на працягу многіх гадоў, ходзіць у царкву, але не разумее, у што верыць. Курс Альфа – гэта таксама сустрэчы для тых, хто шукае адказу на пытаньне – што такое хрысьціянства.***

Узьнік гэты курс больш за 20 гадоў таму ў англіканскай парафіі Сьвятой Тройцы ў лонданскім квартале Бромптан. А сёньня ўсё больш Цэркваў і хрысьціянскіх арганізацыяў рознага кшталту і розных дэнамінацыяў адкрываюць для сябе гэты просты спосаб падаць Дабравесьце Ісуса Хрыста ў зразумелай і даступнай форме, якая не адштурхоўвае і ня нудзіць асобаў, якія паходзяць з самых розных асяродкаў. Сёньня курс Альфа праводзіцца ўжо ў 158 краінах краінах сьвету на 107 мовах у пратэстанцкіх, каталіцкіх і праваслаўных Цэрквах. Яго прайшлі ўжо 13 мільёнаў людзей ва ўсім сьвеце.

**КУРС АЛЬФА** – гэта 15 тэматычных выкладаў падчас 10 штотыднёвых сустрэчаў, а таксама выязны ўік-энд, які адбываецца прыблізна пасьля паловы курсу. Можна слухаць, дапытвацца, абмяркоўваць, дасьледаваць і запытваць пра ўсё. Альфа – гэта тое месца, дзе ня толькі можна, але і варта не саромецца задаваць самыя наіўныя або дзіўныя для кагосьці пытаньні. Тэмы заняткаў – гэта асновы хрысьціянства, увядзеньне ў хрысьціянства. Хто такі Ісус і навошта Ён памёр? Як паверыць, як маліцца і навошта чытаць Біблію? Ці ацаляе Бог сёньня, што такое Царква і г. д. – гэта тыя тэмы, якія закранаюцца на курсе. Уік-энд Альфа сьпецыяльна прысьвечаны Асобе Духа Сьвятога.

Як выглядае сустрэча Альфа? Яна мае тры складовыя часткі: вячэра, выклад тэмы, групы. Пачынаецца ўсё з вячэры. Гэта выдатная магчымасьць бліжэй пазнаёміцца. Вячэру гатуе група арганізатараў, якая загадзя зьбіраецца, каб падрыхтаваць усё неабходнае для сустрэчы. Гэтая група таксама моліцца за ўдзельнікаў курсу. Пасьля вячэры той, хто праводзіць яе, робіць выклад. Затым удзельнікі (калі іх шмат) разьдзяляюцца на групы па 8-12 чалавек, у якіх абмяркоўваюць пачутае падчас выкладу.

**АЛЬФА** – гэта ня толькі таму, што гэта першая літара грэцкага алфавіту. Ня толькі таму, што гэта пачатак пазнаньня хрысьціянства. Альфа (па-ангельску – ***Alpha***) – гэта своеасаблівы шыфр, які раскрывае ўсе найважнейшыя моманты курсу.

***A** – anyone can com:* ***прыйсьці можа кожны,*** хто хоча ведаць больш пра хрысьціянства. Важнай рысай гэтага курсу зьяўляецца павага да свабоды чалавечай асобы. Удзельнікам курсу не абавязкова мусіць быць толькі хрысьціянін або чалавек, які сябе лічыць хрысьціянінам. Можа прыйсьці нават атэіст, агностык, кожны, хто шукае сэнсу жыцьця. На першых сустрэчах курсу ўдзельнікі нават ня моляцца, каб такія людзі адчувалі сябе таксама камфортна, як і хрысьціяне «з шматгадовым стажам».


*Сустрэча курса Альфа ў Горадні.*

***L** – learning and laughter:* ***вучымся і сьмяемся.*** Жарты – гэта абавязковы элемент падчас курсу Альфа, бо сьмех зьнішчае бар'еры і робіць чалавека больш адкрытым і свабодным. Таму з сьмешнай показкі, анекдоту пачынаецца кожны выклад.

***P** – pasta, pizza:* ***піцца, макароны альбо нейкая іншая ежа.*** Курс Альфа пачынаецца з урачыстай вячэры, на якую запрашаюцца “выпускнікі” папярэдняга курсу і ўдзельнікі новага. З вячэры пачынаецца і кожная сустрэча курсу. Падчас вячэры паміж удзельнікамі ствараецца сяброўская атмасфера. Размовы падчас вячэры могуць быць пра ўсё: пра надвор'е, спорт, працу, акрамя… хрысьціянства. На гэта ў курсе Альфа прадугледжаны асаблівы час – абмеркаваньне ў групах.

***H** – helping one another* ***– узаемна дапамагаем адзін аднаму.*** На курсе Альфа няма “настаўнікаў і вучняў”. Удзельнікі ўзаемна дапамагаюць адзін аднаму пазнаваць праўду пра Хрыста: тыя, хто ведае больш, адказваюць на пытаньні тых, хто ведае менш.

***A** – ask anything* ***– пытацца можна пра ўсё:*** на курсе Альфа няма недарэчных пытаньняў. Кожнае пытаньне мае сэнс.

**У Беларусі курс Альфа** пакуль яшчэ мала вядомы. У Каталіцкай Царкве ён адбываецца ў рыма-каталіцкай парафіі ў Жодзіна, а таксама ў грэка-каталіцкай парафіі ў Горадні.

Сёлета ў гарадзенскай парафіі адбываецца ўжо другі курс Альфа.

У першай сустрэчы першага курсу Альфа ў Горадні ўдзельнічала толькі тры арганізатары і 15 удзельнікаў (рэкамендуецца, каб прапорцыі былі 1/3). На свае сродкі яны гатавалі вячэру для ўсіх, аднак удзельнікі курса ўжо на адным з першых спатканьняў самі выказалі жаданьне зьбіраць ахвяраваньні на сумесны пасілак (напрыклад, у Англіі на курсе Альфа гэта прынята рабіць толькі пасьля паловы курсу). Самым яскравым момантам курсу стаў уік-энд, які адбыўся ў доме дабрачыннага таварыства “Карытас” у мястэчку Сапоцкін каля Горадні. Удзельнікі ня толькі маліліся і слухалі навучаньне, але таксама проста весела праводзілі час ля вогнішча, вучыліся сярэднявечным танцам. Асабліва ўпадабалі ўдзельнікі ўік-энду гульню ў фрысбі – «лятаючую талерку».

Асноўны прынцып курсу Альфа – гэта евангелізацыя, якая абапіраецца на мясцовую Царкву. Таму парафіяне гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай імкнуцца па меры магчымасьцяў удзельнічаць у курсе – некаторыя ў якасьці звычайнага ўдзельніка, некаторыя (асабліва тыя, хто ўдзельнічаў у першым курсе Альфа) – у якасьці памочнікаў, хтосьці прыносіць прадукты да вячэры Альфа, а хтосьці падтрымлівае арганізатараў і ўдзельнікаў малітвай.

*Хто жадаў бы прыняць удзел у курсе Альфа або атрымаць больш інфармацыі пра гэты курс – зьвяртайцеся па тэл. (+375-29) 773-79-68, e-mail: ankrot@gmail.com.*

*Інфармацыю пра курс Альфа можна знайсьці таксама на сайтах:*
*http://alpha.org – па-ангельску*
*http://www.alphacourse.ru – па-расейску*

**а. Андрэй КРОТ**

# Пачуць і распазнаць голас Бога

***На схіле лета грэка-каталікі з Берасьця вырашылі выехаць за горад і зладзіць для сябе на пясчаных берагах лясного возера пад Кобрынем адпачынак у Сьвятым Духу. Мы выйшлі з шумнага гораду і з плыні звыклага жыцьця, каб паслухаць Бога, падзяліцца адзін з адным досьведам, праславіць Яго ў песьнях і танцах ды проста адпачыць у цудоўныя апошнія дні сонечнага лета. А словы з Біблії «Sh'ma, Israel…» (слухай, Ізраіль) былі для нас дэвізам.***

На працягу гэтых дзён – з 25 па 29 жніўня 2009 году – каля пяцідзесяці чалавек стала жылі ў лясных намётах, а яшчэ прыкладна паўтары сотні маладых людзей заязджалі на пэўны час да нас у госьці. Некалькі дзён пажадалі правесьці разам з намі нашыя сябры – рыма-каталікі з Гарадзеншчыны з супольнасьці «Magnificat» і вернікі з Кобрыня.

Вялікі шацёр быў цэнтрам усяго нашага малітоўнага жыцьця. Тут былі пасланыя дываны, каб зручна было сядзець, слухаючы духовыя размовы і разважаньні. Таксама тут была разьмешчана музычная апаратура, электрагітары, барабаны, і мы маглі сьпяваць і танчыць перад Госпадам. Побач з гэтым шатром быў намёт супольнай трапезы. Цэлымі днямі каля яго ўздымаўся дым ад вогнішча.

Лейтматывам духовых размоваў падчас усіх нашых спатканьняў было слуханьне Бога, распазнаваньне Ягонага голасу, падрыхтоўка да гэтага слуханьня ды проста асэнсаваньне таго факту, што Бог жывы і хоча з намі размаўляць. За гэтыя дні мы паглыбіліся ў гісторыю спатканьня ізраільскага народу з Богам ля гары Сынай. Прыгадалі, як людзі не захацелі, спалохаліся слухаць Бога і паслалі з Ім размаўляць пасярэдніка – Майсея, каб ён слухаў і ўсе словы Бога пераказваў.

Нічога новага няма пад сонцам, і сёньня хрысьціяне таксама адказнасьць слухаць Бога часьцей за ўсё імкнуцца дэлегаваць каму-небудзь іншаму: ці то прароку, ці то сьвятару, ці то манаху-старцу. А што ж Бог сказаў? Ён сказаў і ўвесь час кажа: «Слухай, Ізраіль…» Увесь народ – слухай, і кожны чалавек паасобку. І ў гэтым будзе блаславеньне і жыцьцё. Таму ёсьць патрэба пэўных зьменаў у нашай сьвядомасьці, каб кожны прагнуў чуць і слухаць Бога ды адказваць Яму, калі Ён зьвяртаецца да нас.

Варта таксама дзяліцца досьведам слуханьня Бога, распазнаваньня Ягонага голасу. Бог прамаўляе да нас у разнастайны спосаб. І самы яскравы і просты досьвед – калі мы чуем Ягоны голас. Але ён гучыць ня так, як фізічны гук, які спачатку кранае вуха і па нервах даходзіць да мозгу і так нараджае вобразы, сэнс. Божаму голасу ня трэба рабіць гэты шлях, бо Бог прамаўляе ўнутры нас. Голас Ягоны гучыць падобна да фізічнага гуку, але толькі ў мозгу. Дарэчы, айцы Царквы, у прыватнасьці сьв. Ян Залатавусны, апісвалі Божы голас менавіта ў такі спосаб. І яшчэ: мы самыя мусім быць гатовымі слухаць Бога, заняць пэўную паставу, каб нічога не перашкаджала, падрыхтаваць сэрца. Бо звычайна наўрадці мы пачуем Бога, калі нашыя сэрцы поўныя ідалаў. Тады змарнуем Ягонае слова. Будзем чуць ува ўсім ня Бога, а толькі свае думкі, самі з сабою ўнутранна размаўляць.

Акрамя духоўных размоваў было і радаснае праслаўленьне Госпада. Асабліва ажывілі наш адпачынак госьці з Украіны – Раман Іванько і яго музычны гурт «Сафія». Былы наркаман, узьняты Богам з самога дна, стаў напоўненым Божым жыцьцём і па-сапраўднаму, жыва і радасна праслаўляе сёньня свайго Госпада і Збаўцу музыкай. І гэта выглядае вельмі моцна, гэта ўражвае. Быццам урачысты сьцяг Божае перамогі ў жыцьці канкрэтнага чалавека. Насуперак усім прысудам, сьмярцям, злым духам.

Моцна зжыўшыся адзін з адным і ня маючы ніякай ахвоты разьвітвацца, многія з нас вырашылі прыняць запрашэньне кобрыньскіх вернікаў з супольнасьці «Крыніца жыцьця» і зьезьдзіць на арганізаваны імі канцэрт-праслаўленьне, які вялі музычныя гурты «Параклетас» і «Сафія». Дарэчы, на гэты канцэрт-праслаўленьне, на якім былі таксама розныя конкурсы і жарты, сьпецыяльна былі запрошаныя маладыя людзі з кобрыньскіх вуліц – звычайная гарадзкая моладзь. Працяг для нас атрымаўся яшчэ і наступнага дня – гасьцямі ў душпастырскім цэнтры берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі стаў хрысьціянскі гурт «Сафія». Зноў быў жывы сьпеў-праслаўленьне пад палаючым лідарствам Рамана Іванько.

Сышоў Сьвяты Дух і лунаў. Пакрыў нас.

**Віталь БЫСТРОЎ**
*г. Берасьце*







## Шчыра віншуем!

*27 чэрвеня 2009 году ў берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя адбыўся шлюб семінарыста БГКЦ Віталя Быстрова (паходзіць з Камянца), які скончыў навучаньне і атрымаў ступень магістра тэалогіі, і Вольгі Дрык (родам з Івацэвічаў). Абрад вянчаньня і блаславеньне маладых зьдзейсьніў а. Ігар Кандрацьеў (гл. фота).*

*Парафіяне і сябры жадаюць маладым Божага блаславеньня «на многія леты»!*



# Прыйдзіце, прыміце Духа Сьвятога

***14-18 ліпеня 2009 году прадстаўнікі парафіяў БГКЦ удзельнічалі ў міжнародным «Кангрэсе пакланеньня», які быў арганізаваны каталіцкай Супольнасьцю «Эмануэль» у францускім мястэчку Парэ-ле-Маньяль (Paray-le-Monial). Гэтае месца вядомае ад часу зьяўленьняў Ісуса сьвятой манахіні Маргарыце Марыі (Алякок) у 1629 г. і ўстанаўленьня ў Каталіцкай Царкве культу Найсьвяцейшага Сэрца Ісуса.***

У намёце, дзе адбываліся нашыя малітоўныя спатканьні, вісеў абраз, на якім Сэрца Ісуса Хрыста было паазана як еўхарыстычная Гостыя (Агнец). Гэтая ікона была заклікам да малітоўнага пакланеньня Ісусу Хрысту ў Сьвятых Дарах Еўхарыстыі. І на самой справе кожны дзень у праграме Кангрэсу быў час на еўхарыстычную адарыцыю (пакланеньне Сьвятым Дарам). Гэта давала ўдзельнікам Кангрэсу магчымасьць асэнсаваць Еўхарыстыю як крыніцу Боскай Любові, як Сакрамант Духа Сьвятога. Тым больш, што на іконе ў кнізе, якую трымае Ісус Хрыстос, зьмешчаныя словы з Евангельля «Прыміце Духа Сьвятога».

У духовых выкладах падкрэсьлівалася, што крыніцай нашай любові да Бога, а значыць і жаданьня Яму пакланяцца – ёсьць Любоў, якой адорвае нас Ісус Хрыстос з Свайго Сэрца. Для нас, грэка-католікаў, гэта была магчымасьць бліжэй пазнаёміцца і адчуць усю таямніцу еўхарыстычнай адарацыі – даўняй практыкі братоў лацінскага абраду.

У духоўнай традыцыі Заходняй Царквы звычайна пераважае розум, практычнасьць, дзейнасьць, ёй менш уласьцівыя ўсходні містыцызм, сузіральнасьць, медытацыйнасьць.



Але якраз еўхарыстычная адарацыя зьяўляецца тым часам, калі рыма-католік спыняецца, каб пабыць з Ісусам Хрыстом адзін на адзін, у цішыні.

Што ж да ўзаемаадчуваньня, то нават не былі патрэбныя выклады: дастаткова было паглядзець навокал. З усёй усходняй групы – а гэта каля 70 беларусаў, палякаў і ўкраінцаў – францускай мовай валодала толькі некалькі асобаў, але гэта не перашкаджала нам адчуваць сябе там добра. Усьмешка, дапамога, прыязная размова – гэта было абсалютна натуральна.

Таксама і Боская Літургія ў візантыйскім абрадзе, якую ўзначальваў а. Алесь Шаўцоў з Полацку, была цудоўным часам сулучнасьці беларусаў, украінцаў і палякаў (падобна, некаторыя французы таксама прысутнічалі) у праслаўленьні Хрыста, Які ў сьвятых Сакрамантах жыве і надзяляе вернікаў Духам Сьвятым.

**Алена АНДРОСІК,** *г.Менск*

# Маленькая гісторыя пра Майстра і пра скрыпку

***Пасьля некалькіх дзён адпачынку, праведзеных разам з супольнасьцю «Маран ата» 25-29 жніўня 2009 году на лясным возеры пад Кобрынем, напісалася Маленькая гісторыя пра Майстра і пра скрыпку, а можа зусім і не пра Майстра, і не пра скрыпку…***

Майстар падбірае патрэбны матэрыял, апрацоўвае яго, стварае інструмент… Ён любіць сваю справу. Ён хоча, каб скрыпка была дасканалай. Ён стварае скрыпку з пэўнай мэтай. Ён хоча, каб яна гучала, каб плакала і сьмяялася, каб яе голас быў чысты і звонкі. Каб яна стала для кагосьці крыніцай натхненьня.

Ён хоча, каб яе слухалі. Ён ведае, скрыпка будзе жыць толькі тады, калі яна будзе гучаць. Штодзень. Нават калі парвецца струна. Іначай яна проста пакрыецца пылам або струхнее, лежачы ў шафе. Яна тады нікому не патрэбная, бо была створаная не для таго, каб пакрывацца пылам і трухнець, а для таго, каб іграць. Іграць для іншых.

Майстар бярэ скрыпку ў рукі, праводзіць смычком па струнах... Першы гук яму можа і не спадабацца… Тады ён настройвае інструмент… На гэта таксама патрэбны час.

Нарэшце скрыпка прывыкае да рук Майстра, становіцца паслухмянай, адгукаецца на кожны дотык. Яна давярае. Яна ведае, што створаная Сапраўдным Майстрам… Калі Ён дакранаецца смычком да струнаў, яна гучыць. Яна сьмяецца і плача… Яна кліча ў неба.

Яна перастала быць скрыпкай... Яна – дзьверы ў іншы сьвет. Сьвет гукаў, сьвет чысьціні, сьвет дасканаласьці…

Маленькая гісторыя пра Госпада, які стварае чалавека, каб ён…

**Надзея ЯРМІШЫНА,** *г.Берасьце*





# Прэзентацыі дыску «Песьні Духа»

***Адбыліся першыя выступы з прэзентацыяй дыску «Песьні Духа», які нядаўна запісалі берасьцейскія грэка-католікі з харызматычнай супольнасьці «Маран ата».***

18 ліпеня 2009 году на шматлюдным фэсьце ў Гудагаі ў гонар цудатворнай іконы Маці Божай, перад урачыстай сьв. Імшой, гэтыя песьні на словы кармельскіх містыкаў на працягу гадзіны маглі слухаць пілігрымы з розных куткоў Беларусі. А напярэдадні ўвечары многія вернікі лацінскага абраду былі ўражаныя прыгажосьцю Акафісту да Маці Божай, якія сьпявалі берасьцейскія грэка-католікі ў касьцёле перад цудатворнай іконай. Некаторыя потым нават запытваліся, ці няма запісанага дыску з такім цудоўным сьпевам. 19 ліпеня прэзентацыя адбылася ў касьцёле сьв. апостала Андрэя ў курортным мястэчку Нарач, дзе таксама, як і ў Гудагаі, працуюць айцы-кармэліты, якія падтрымалі запіс гэтага дыску.

Перад гэтым, 20 чэрвеня, некалькі песьняў з альбому «Песьні Духа» прагучалі таксама ў касьцёле Ўзвышэньня Сьвятога Крыжа ў Берасьці. У гэты дзень дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец удзяліў сьв. Тайну сьвятарства брату Юрыю ад Маці Божай Нястомнай Дапамогі з супольнасьці Босых Братоў Ордэна Найсьвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель. Песьні на словы вялікіх містыкаў Кармелю сталі падарункам берасьцейскіх грэка-католікаў свайму земляку а. Юрыю Кулаю.

14 верасьня, на сьвята Ўзвышэньня Пачэснага Крыжа Гасподняга, песьні з гэтага дыску, а таксама іншыя сьпевы гучалі для вернікаў рыма-каталіцкай парафіі на Кальварыі ў Менску, якая адзначала ў гэты дзень сваё парафіяльнае сьвята.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Ушанаваньне абраза Ісуса Міласэрнага

***У нядзелю, 23 жніўня 2009 году, у Менску адбыліся ўрачыстасьці з нагоды заканчэньня вандраваньня па парафіях Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі абраза Ісуса Міласэрнага і рэліквіяў блаславёнага Міхала Сапоцькі, які служыў у Беларусі і спрычыніўся да пашырэньня культу Божай Міласэрнасьці. Разам з братамі рыма-католікамі ў гэтай ўрачыстай падзеі бралі ўдзел і грэка-католікі з Меншчыны.***

Сьвяты Айцец Ян Павел ІІ пасьля шматгадовых дасьледаваньняў надаў нядзелі пасьля Пасхі (Нядзелі Тамаша) імя Нядзелі Божае Міласэрнасьці і блаславіў паўсюдае шанаваньне іконы Ісуса Міласэрнага, якая мае надпіс «Ісус, давяраю табе!». У Цэрквах візантыйскай традыцыі гэтая ікона ўшаноўваецца як ікона Хрыста Чалавекалюбцы. Сэнс гэтай іконы – заклікаць чалавецтва зьвярнуцца да Бога і даверыцца Яму.

Урачычтасьці ў Менску ўзначальвалі архібіскуп Кёльнскі кардынал Ёахім Майснэр і архібіскуп-мітрапаліт Менска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч. На царкоўным сьвяце былі вернікі ўсіх чатырох менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў і два сталічныя душпастыры беларускіх грэка-католікаў – а. Пахом Кавалёў і а. Яўген Усошын.

Таксама на ўрачыстасьць у Менску прыехалі вернікі з Маладэчна, якія ў сваім горадзе моляцца ў грэка-каталіцкім санктуарыюме Божай Міласэрнасьці. У маладэчанскай грэка-каталіцкай сьвятыні ўшаноўваюцца ікона Хрыста Чалавекалюбцы і ікона блаславёнага сьвятара Міхала Сапоцькі, напісаныя ў візантыйскай традыцыі іканапісу.

## Віншуем!



***Сёлета 4 кастрычніка, у дзень успаміну сьв. Францішка Асізскага, спаўняецца 40 гадоў Сяргею Якімуку, які вось ужо больш за 12 гадоў амаль штодзень прыслугоўвае сьвечканосцам у храме грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці.***

Яго ніхто не прыводзіў – аднойчы ён завітаў да нас сам ды так і застаўся. Напэўна, сам Бог прывёў яго пад крыж сьв. Францішка, выявя якога ў алтары берасьцейскай царквы. Сярожка ведае, што ў ягоным сэрцы жыве Бог. Бог, Які ня можа зьмясьціцца ў рамкі нейкай канфесіі, Які, будучы ўкрыжаваным, з ласкавасьцю і любоўю глядзіць на ўсіх нас і дае надзею на Ўваскрасеньне,– гэта яго Бог. Простая малітва гэтага Божага чалавека ўражвае нас сваёй шчырасьцю, а тое, як ён адчувае зьмены ў нашым настроі, унутраным стане – не дае забываць нам, што заўсёды і ва ўсіх сітуацыях галоўнае для нас мусіць быць – Любоў. Сярожка любіць гаварыць, як ён усіх нас любіць і ў сваіх простых малітвах просіць Бога за нас. І мы яго любім і жадаем яму радасьці, здароўя і шчасьця ў Богу. Няхай Госпад благаславіць яго і ягоную маці і захавае на многія леты.

**Берасьцейскія вернікі**

# Паломніцкія шляхі івацэвіцкіх вернікаў

⇨ Пачатак на с. 13

Затым івацэвіцкія і бярозаўскія вернікі наведалі сьвятыя мясьціны ў Полацку: Сафійскі сабор – былую катэдру полацкіх уніяцкіх архібіскупаў, дзе служыў сьв. Язафат і дзе прынялі сваю мучаніцкую сьмерць пяць полацкіх манахаў-базыльянаў, а таксама Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр. Для пілігрымаў падалося сымбалічным, што падчас наведваньня Спаса-Еўфрасіньнеўскага манастыра, дзе спачываюць мошчы сьв. Еўфрасіньні Полацкай і дзе захоўваецца каштоўны крыж, зроблены ў яе памяць паводле старажытнага ўзору, грэка-католікі з Івацэвічаў сустрэліся са сваімі землякамі – праваслаўнымі вернікамі, якія таксама прыехалі пакланіцца сьвятыням у Полацку. Шанаваная і праваслаўнымі, і грэка-католікамі сьвятая Апякунка і Асьветніца Беларусі Еўфрасіньня дзіўна сабрала разам вызнаўцаў двух розных канфесіяў з аднаго гораду і паказала, што яны маюць аднолькавыя карані і маюць адзінага для ўсіх Збаўцу Ісуса Хрыста.

А ў нядзелю, 23 жніўня, разам з грэка-католікамі з іншых парафіяў Беларусі, вернікі з Івацэвічаў і Бярозы маліліся на ўрачыстай архірэйскай Боскай Літургіі ў Полацку, у царкве сьв. Параскевы Полацкай грэка-каталіцкай парафіі сьв. Язафата. На гэтай Літургіі ўкраінскі біскуп Мукачаўскі Уладыка Мілан (Шашык) высьвяціў для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы новага сьвятара – Аляксандра Аўдзеюка.

**Павел ДАЙЛІД,** *г. Івацэвічы*



*Царква Сьв. Духа. Рэканструкцыя. Літаграфія В. Сташчанюка.(1988). Справа – будынак ратушы.*

## Гістарычная даведка пра царкву Сьвятога Духа манастыра базыльянаў у Менску

*У1617 г. для мужчынскага Сьвятадухаўскага манастыра быў адведзены «пляц пустый, до церкви святого духа, в рынку против ратуши лежачы... для побудованья монастыра и школ». У 1636 г. менскім базыльянам перадалі суседні пусты пляц пад назвай «Лужа», ушыркі 8 сажняў, для пабудовы на ім мураванае царквы замест драўлянай. Паводле зьвестак дасьледчыцы гісторыі архітэктуры Беларусі А.Квітніцкай, арыгінальны прыём, выкарыстаны пры аздабленьні храму, зьяўляецца ўкладам Беларусі ў агульнаеўрапейскае дойлідзтва Рэнесансу. Сучасьнікаў царква Сьв. Духа зьдзіўляла сваёй прыгажосьцю. Маскоўскі дыпламат П.А. Талстой у 1697 г. пісаў: «В том монастыре церковь каменная великая, в которой своды изрядные, каких сводов мало в Польше обретается в каменном строении». У час маскоўскай навалы 1654-1667 гг. комплекс менскіх базыльянскіх манастыроў выкарыстоўваўся ў абарончых мэтах. У XVII-XVIII стст. пры манастыры Сьвятога Духа існавала школа (заснавана ў 1633 г.), дзе выкладаліся грэцкая, лацінская, стараславянская, старабеларуская і польская мовы. Вядома, што пры манастыры ў XVII ст. дзейнічала друкарня. У манастырскай бібліятэцы была сабрана вялікая колькасьць рукапісных і друкаваных кніг, каштоўных дакументаў і рэдкіх рукапісаў. Дастаткова сказаць, што тут у XVII-XVIII стст. захоўваўся вядомы беларуска-літоўскі «Нікіфараўскі» летапіс. У 1795 г. мужчынскі і жаночы базыльянскія манастыры Сьвятога Духа былі зачыненыя, а царква аддадзена пад катэдральны праваслаўны Петрапаўлаўскі сабор. Да 1799 г. у будынках манастырскага комплексу знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага архіяпіскапа, а затым у корпус былога мужчынскага манастыра была пераведзена Менская дваранская вучэльня, у 1803 г. пераўтвораная ў гімназію. Наступныя перабудовы да непазнавальнасьці зьмянілі выгляд храму і значна пагоршылі яго выгляд. 15 сакавіка 1936 году на прапанову старшыні Савету народных камісараў М.Галадзеда Бюро ЦК КП(б)Б прыняла рашэньне аб зьнішчэньні храму...*





*Праект адбудовы царквы Сьвятога Духа.*

# На месцы царквы Сьвятога Духа знайшлі крыпты з астанкамі фундатараў

***У Менску пры аднаўленьні ўнікальнага ўніяцкага храму XVII ст. знайшлі склеп з пахаваньнем фундатараў царквы. Сам храм быў зьнішчаны ў часы ваяўнічага атэізму ў 1930-ыя, але да трунаў тады не дабраліся.***

З канца лета 2009 году вось ужо некалькі тыдняў працоўныя КУП «Менская спадчына» раскопваюць падмуркі гэтай славутай царквы. Падчас працы коўш экскаватара раптам прабіў невядомую крыпту (пахавальны склеп), не пазначаную ні на адным з планаў царквы. Прараб будоўлі выклікаў сьпецыялістаў з Інстытуту археалогіі НАН Беларусі, якія пачалі прафесійна раскопваць крыпту. Астанкі фундатараў царквы засталіся некранутымі, нягледзячы на трагічны лёс храму.

Побач са знойдзеным склепам, які належыць да «крыптаў закрытага тыпу», знайшлі яшчэ адно пахаваньне – ужо ў адкрытай крыпце. Падчас ранейшых раскопак, апошнія з якіх праводзіліся ў 1980-ыя, знайшлі толькі крыпту XIX стагоддзя, у якой таксама знаходзіцца некалькі пахаваньняў.

Цяпер праектны план будзе скарэктаваны, а знойдзеныя крыпты і лёхі царквы – музеефікаваныя. Хутчэй за ўсё, можна будзе спусьціцца пад зямлю, каб убачыць падмуркі царквы, прыкладна так, як гэта зроблена ў Сафійскім саборы ў Полацку.

У старых еўрапейскіх гарадах крыпты, якія зьяўляюцца рэдкасьцю, адкрытыя для наведваньня і зьяўляюцца важным пунктам турыстычных і адукацыйных падарожжаў. Напрыклад, у суседняй Польшчы ёсьць толькі дзьве падобныя крыпты.

Калісьці храм Сьвятога Духа ў стылі рэнесансу і барока лічыўся найпрыгажэйшым у горадзе. Яго вылучаў пышны фасад – нібы іканастас: размаляваны фрэскамі, прарэзаны нішамі, з якіх пазіралі на мінакоў сьвятыя, увасобленыя ў скульптурах. Каб уявіць, як выглядаў гэты шэдэўр, можна ўзгадаць універсітэцкі касьцёл сьв. Яна ў Вільні – іх сілуэты пераклікаюцца.

Комплекс базыльянскіх манастыроў з царквой Сьвятога Духа па праву зьяўляецца найбольш значным помнікам у гісторыі архітэктуры Менска. Ён быў пабудаваны ў першай палове XVII ст. на Высокім рынку (сучасная пл. Свабоды) – у адміністрацыйным, гандлёвым і культурным цэнтры сярэдневяковага гораду. Да нашага часу захаваліся асобныя пабудовы некалі велічнага ансамбля: карпусы мужчынскага (пл. Свабоды, 23) і жаночага (вул. Энгельса, 1) базыльянскіх манастыроў, перабудаваных у XIX ст. На жаль, галоўнае збудаваньне ўсяго комплексу – царква Сьвятога Духа – не захавалася. Яна складала цэласную кампазіцыю Ратушнага пляцу, які быў моцна зьнішчаны за царскім і савецкім часам. У 1990-ыя гады пачалося аднаўленьне Ратушнага пляцу. Ужо аднаўлена каталіцкая архікатэдра, адбудавана ратуша, гатэль «Еўропа». Сёньня на чарзе – царква Сьвятога Духа.



*Царква Сьв. Духа. Від з апсіды на катэдру (рэканструкцыя). Літаграфія В. Сташчанюка.(1988).*



*Пляц на месцы царквы Сьв. Духа перад пачаткам аднаўленьня. Фота В. Груздава.*



*Падмуркі царквы Сьв. Духа. Фота В. Груздава.*

Ідэя аднавіць гэтую прыгожую царкву зьявілася яшчэ ў 1980-ыя гады. Тады вядомы архітэктар Сяргей Багласаў распрацаваў праект рэстаўрацыі, за ажыцьцяўленьне якога ўзяліся толькі сёлета.

Планавалася, што храм Сьвятога Духа, узьведзены пасьля 1636 году і разбураны ў 1936-м, адновяць у 2010-2011 гадах. Сёлета ўвесну, калі яшчэ планаваліся археалагічныя раскопкі і інжынерныя працы на месцы царквы, Павел Шыкунец, дырэктар камунальнага будаўніча-эксплуатацыйнага УП Менгарвыканкаму «Менская спадчына», арганізацыі, што адказвае за аднаўленьне помніка, у інтэрв'ю «Народнай газеце» казаў, што ўжо да сёлетняга Дня гораду павінен быў паўстаць сам будынак храму – такі наказ далі рэстаўратарам улады сталіцы. Далей займаліся б ужо аздабленьнем фасадаў і інтэр'еру. Рэаліяваць гэткі хуткі план будаўніцтва не атрымалася – працы пачаліся толькі напрыкацы лета.

«Мы ведаем, што ў зямлі залягаюць падмуркі царквы XVII стагоддзя», – гаварыў тады П.Шыкунец. Сёньня, калі на месцы царквы адкрыта новая невядомая крыпта, зьдзіўляе, што ўскрыта яна была не археолагамі, як абяцалася, але... экскаватарам. І толькі тады былі выкліканы археолагі. Такі падыход пры аднаўленьні храму на самым пачатку прац ня можа не выклікаць насьцярожанасьці ў тых, каго хвалюе лёс гэтай старажытнай царквы: што ж мы атрымаем напрыканцы, ці будзе захавана тое, што захавалася пад зямлёй?

Паводле словаў П.Шыкунца, уся праца па адбудове царквы павінна заняць 19 месяцаў. Над старажытным фундаментам узьвядуць платформу, на якой, уласна кажучы, і будзе аднаўляцца царква. А пад платформай застануцца рэшткі першапачатковага храму, якія змогуць пабачыць турысты – або звонку будынка, або спусьціўшыся ў сутарэньне. Узьвядзеньне платформы над старымі падмуркамі дазволіць засьцерагчы новы будынак ад «землятрусу», бо ў гэтым месцы праходзіць лінія метрапалітэну.

Працяг на с.20 ⇨

# Літургія за супакой пахаваных у крыпце

***У сувязі з нядаўнімі знаходкамі ў Менску парэшткаў невядомых пакуль асобаў (магчыма, манахаўбазыльянаў і фундатараў царквы Сьвятога Духа) у выпадкова выяўленай падчас будаўнічых працаў крыпце (гл. фота), 9 верасьня 2009 году ў памяць пра іх і за іх супакой маліліся менскія грэка-католікі.***

Літургію за супакой усіх вядомых і невядомых уніяцкіх дабрадзеяў ды манахаў-базыльянаў адслужылі віцэ-дэкан грэка-каталіцкіх парафіяў Менску і Менскай вобласьці а.Яўген Усошын і душпастыр парафіі Праведнага Язэпа а. Аляксандр Аўдзеюк.

«Для вернікаў і для ўсіх цывілізаваных людзей парэшткі памерлых – гэта рэч сьвятая. Нашыя продкі ў веры маюць права на нашую малітву і на пашану з боку ўсіх жыхароў Менску», – сказаў віцэ-дэкан а. Яўген Усошын.

Хто быў пахаваны ў крыпце царквы Сьвятога Духа – пакуль не ўстаноўлена. Верагодна, гэта былі манахі-базыльяне і фундатары.

Вядома імя першага ігумена манастыра Апанаса Пакосты, якому некаторымі дасьледчыкамі прыпісвалася нават будаўніцтва мураванай царквы і манастыра ў 1617 годзе. Аднак будаўніцтва гэтай унікальнай царквы стала магчымым толькі пасьля атрыманьня ў 1634-ым 2000 злотых, ахвяраваных манастыру багатым полацкім гараджанінам Іванам Блажковічам-Латышам. У 1636 годзе менскім базыльянам перадаецца суседні пусты пляц пад назвай «Лужа», ушыркі 8 сажняў, для пабудовы на ім мураванай царквы замест драўлянай. Тады ігуменам быў ужо а. Генадзь. Уніяцкі мітрапаліт Кіеўскі Антон Сялява пакінуў тэстамент у 1651 г. з просьбай пахаваць яго менавіта ў прыдзеле менскай царквы Сьв. Духа. На ўзьвядзеньне гэтага прыдзелу і будынка жаночага манастыра базыяльнак (засанаваны ім для апекі над беднымі дзяўчатамі ў 1641 г.) ён фундаваў 20 тысячаў злотых. Гэта дало падставы некаторым дасьледчыкам меркаваць, што ў крыпце царквы маглі быць знойдзеныя парэшткі мітрапаліта А.Сялявы. Аднак малаверагодна, каб ён быў там пахаваны, бо гэты ўніяцкі мітрапаліт памёр, уцякаючы ад маскоўскага войска, у Тыкоціне на Падляшшы і быў пахаваны ў Супрасьлеўскім базыльянскім манастыры.

Сярод знакамітых фундатараў, што маглі быць пахаваныя у крыпце царквы Сьвятога Духа, – Кацярына Сапега, першая ігуменьня манастыра базыльянак (1650-1676 гг.), якая ахвяравала на яго ўзьвядзеньне 9 000 злотых і яшчэ 10 000 – на ўтрыманьне пры ім сіротаў. Магчыма, у крыпце царквы былі пахаваныя першы ігумен манастыра Апанас Пакоста і яго наступнік а. Генадзь, пры якім пачалося будаўніцтва царквы. Досыць верагодна, што мог быць пахаваны ў ёй і архімандрыт Аўгустын Любянецкі, які ў 1733 годзе ахвяраваў 1000 талераў на ўтрыманьне хору, каб штодзень у царкве Сьвятога Духа было вельмі ўрачыстае, з духоўнымі гімнамі ранкам і ўвечары, ушанаваньне слаўнай цудамі іконы Маці Божай Менскай.

Можна спадзявацца, што гэтыя знаходкі прыцягнуць увагу дасьледчыкаў нашай гісторыі і дапамогуць нам нанова адкрыць невядомыя сёньня старонкі беларускай гісторыі.



*• Парэшткі, знойдзеныя ў раскопе на месцы царквы Сьвятога Духа.*

# На месцы царквы Сьвятога Духа знайшлі крыпты з астанкамі фундатараў

⇨ Пачатак на с. 18-19.

На жаль, пры аднаўленьні храму не прадугледжваецца аднаўленьне ў нішах галоўнага фасаду скульптураў і выяваў сьвятых. Нішы аздобяць арнаментам, а стральчатыя гатычныя вокны ўпрыгожаць вітражамі. У адноўленым сакральным будынку, нягледзячы на звароты да ўладаў менскай грэка-каталіцкай інтэлігенцыі, разьмесьціцца не царква, а канцэртная зала дзіцячай філармоніі на 250 месцаў... У планах таксама адбудова галерэі, што калісьці злучала царкву Сьвятога Духа з манастыром базыльянак, дзе сёньня разьмешчана дзіцячая музычная школа № 10. Такім чынам, вуліца Энгельса акажацца «перарэзанай» аркамі галерэі, пад якімі, як мяркуюць архітэктары, стане папулярным звычаем прызначаць спатканьні.

Якім будзе лёс знойдзеных астанкаў фундатараў царквы Сьвятога Духа, ці будуць яны спачываць у крыпце ў сутарэньнях адноўленага будынка храму – адказ на гэтае пытаньне пакуль ня дадзены.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*Паводле матэрыялаў Еўрарадыё, «Народнай газеты», Radzima.org*

*Заснаваная ў 1995 г.*
Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 3 (62), 2009*
17 верасьня

**Адрас рэдакцыі:**
вул. Дворнікава, 63
224014, Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by
*сайт: carkva-gazeta.org*

**Заснавальнік і выдавец:** грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г. Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 28.10.2008 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй АБЛАМЕЙКА, STM
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STL
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 17 верасьня 2009 году, 10-45.
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул. Мініна, 23-106, 220014, Менск. **Замова** №
**Аб'ём** 2,5 друк. арк. **Наклад** 2000 асобнікаў.

*НАШ РАХУНАК:*
*№ 3015220710013*
*у ЦБУ ЗАТ "Абсалют-банк" у г.Берасьці*
*МФО 153001898,*
*УНП 200558013*